ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

10 студзеня 1997 г. № 2 (3878) Кошт 3 000 руб.





# ТРЫУМФ У САН-ФРАНЦЫСКА

Пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора Нацыянальнага тэатра оперы і балета Беларусі Аляксандра АНІСІМАВА адбылася прэм'ера оперы "Князь Ігар" у ЗША.

**Уявіце: зала на чатыры тысячы гледачоў — амфітэатрам. Сцэна змяшчае больш як 350 чалавек. А над сцэнай, недзе на другім паверсе, нібы вісіць аркестр... Вось у такіх умовах у Каліфорніі, у адным з найпрыгажэйшых яе гарадоў — Сан-Францыска, была пастаўлена опера А. Барадзіна "Князь Ігар".**

*(Працяг на стар. 4)*



# КОЛА ДЗЁН

***Пэўна, пакуль што толькі адну выгоду свайго геаграфічнага становішча дзяржава Беларусь скарыстала напоўніцу: калядна-навагоднія святы адзначаць беларусы пачынаюць разам з Захадам, а заканчваюць разам з Усходам (Расіяй). Двухтыднёвыя канікулы для ўсёй краіны — чыста беларуская адметнасць, двухтыднёвыя, бо тыя два-тры дні, што перабіваюць святы, хутчэй пасля- і перадсвяточныя, чым рабочыя... Пагуляць любілі і нашыя продкі, але толькі тады, "калі ў маёй хатачцы парадак ідзець". Гуляць мы не развучыліся, пэўна ж, і працаваць таксама, толькі вось парадку — дабрабыту — у краіне, што завісла між Захадам і Усходам, не відаць, няма. І не будзе, пакуль будзем мы шукаць вінаватых ды дабрадзеяў, а не спадзявацца толькі на саміх сябе. Як і рабілі нашыя продкі.***

## НАЗІРАННЕ ТЫДНЯ

Прэмій розная кшталту на Беларусі няшмат у параўнанні з суседнімі краінамі. Асабліва ў сферы духоўнай культуры. А між тым інфляцыя ды іншыя "...цыі" найменш ахапілі менавіта гэтую галіну "чалавечай дзейнасці". Вядомыя ў свеце беларускі балет і тэатр, не забытыя і папулярныя далёка за межамі Беларусі нашыя мастакі і пісьменнікі... Што б там ні казалі, але кожнаму творцу прыемна, калі праца ягоная заўважаецца і адпаведна ацэньваецца. Аднак у нас чамусьці заўважаюць найперш эстрадных спевакоў ды іншых артыстаў. Двойчы прысуджаліся прэміі (умоўна назавём іх "Чалавек года"), але літаратараў — драматургаў, празаікаў, паэтаў — сярод намінантаў не было. Сёлета з'явілася новая прэмія — прэзідэнцкая "За духоўнае адраджэнне" — і тут тое ж самае. Больш таго, дайшло ледзь не да абсурду: Дзяржпрэмія імя Янкі Купалы (за лепшую кнігу паэзіі) сёлета не прысуджана нікому. Не было дастойных? Не, былі... Значыць, гэта не недагляд, гэта ўжо самая што ні ёсць палітыка. Дзяржаўная... Гэтыя радкі — не здзіўленне і не канстатацыя, гэта так, між іншым, адказ тым, хто шукае калабарантаў сярод пісьменнікаў. Шукае і... не знаходзіць. Альбо знаходзіць, ды — не пісьменнікаў.

## ПРЫЗНАЧЭННІ ТЫДНЯ

Пасля чарады адставак надышоў час чарады прызначэнняў. Указамі прэзідэнта на мінулым тыдні старшынёй Вярхоўнага суда прызначаны В.Сукала, старшынёй Канстытуцыйнага суда — Р.Васілевіч, старшынёй Вышэйшага гаспадарчага суда — У.Бойка, вайсковым пракурорам — В.Любавіцкі. Прыгадаем яшчэ адно нядаўняе прызначэнне — генеральнага пракурора Беларусі. Такім чынам, цяпер ужо і "трэцяя ўлада" — судовая — рэфармавана цалкам.

## НОВАЎТВАРЭННЕ ТЫДНЯ

Дагэтуль Беларусь мела два Вярхоўныя Саветы — прэзідэнцкі і апазіцыйны, — а цяпер будзе мець і два ўрады: 8 студзеня быў створаны грамадскі кааліцыйны ўрад дэмакратычных сіл на чале з Генадзем Карпенкам. Намеснікамі яго сталі С.Багданкевіч і І.Нікітчанка.

У апазіцыйным урадзе шмат вядомых, гучных імён, шмат людзей, якіх мы называем прафесіяналамі. Ва ўрада ёсць эканамічная праграма па вывадзе Беларусі з крызісу, толькі вось з рэалізацыяй яе давядзецца пачакаць. У апазіцыйны ўрад увайшлі не толькі спецыялісты і прафесіяналы, але і тыя, каго мы можам назваць практыкамі. Асабліва дзіўныя метамарфозы адбываліся апошнім часам з А.Сасновым: спачатку быў ён у "ценявым" кабінеце БНФ, потым увайшоў ва ўрад на чале з М.Чыгірам, а цяпер вось зноў вярнуўся ў апазіцыйны кабінет міністраў і на тую ж пасаду. А кажуць — незаменных няма.

## УКАЗ ТЫДНЯ

Адным з апошніх указаў прэзідэнта ў мінулым годзе стаў указ аб пераносе — па волі народа — святкавання Дня незалежнасці з 27 на 3 ліпеня. Справядлівасць, так сказаць, адноўлена... Падзею, што адбылася 27 ліпеня з календара можна выкінуць. І лёгка. Але з гісторыі яе ўжо выкінуць не зможа ніхто.

## НАСТОЙЛІВАСЦЬ ТЫДНЯ

Праз 50 дзён масавых выступленняў супраць адмены вынікаў выбараў у Югаславіі апазіцыя, нарэшце, дабілася першай перамогі: прэзідэнт Югаславіі С.Мілошавіч прызнаў сапраўднымі выбары ў другім па велічыні горадзе краіны. Апазіцыю гэта парадавала, але не задаволіла. Шматтысячныя мітынгі ў Бялградзе працягваюцца: хто хоча, той даб"еццa...

## ПАРАЛЕЛЬ ТЫДНЯ

Славакія стала другой (пасля Францыі) краінай у Еўропе, якая пачала на дзяржаўным узроўні змагацца за чысціню сваёй мовы. Ужыванне замежных — найперш англійскіх — слоў у рэкламе і іншых сферах дзейнасці забаронена. Падобныя ж захады робіцца і ў Турцыі. Нам бы вашыя праблемы — толькі і застаецца ўздыхнуць беларусам.

## ПРАЦЭС ТЫДНЯ

6 студзеня ў Вільні пачаўся суд над арганізатарамі перавароту 11—13 студзеня 1991 года. На лаве падсудных 6 чалавек, сярод якіх і добра вядомыя на Беларусі былыя кіраўнікі летувіскай кампартыі Буракявічус і Ермалавічус. Усяго ж па справе праходзіць 51 чалавек, шмат хто з якіх сёння жыве на тэрыторыі Беларусі. А некаторыя не проста жывуць, але і працуюць на наменклатурных пасадах... Паводле летувіскіх законаў падсудных хутчэй за ўсё чакае смяротны прыгавор.

## СВЯТКАВАННЕ ТЫДНЯ

Толькі на дзевяты дзень новага года выйшлі другія-трэція нумары большасці штодзённых (!) дзяржаўных газет, а амаль усе тыднёвыя і "незалежныя" газеты сваімі першымі сёлетнімі нумарамі парадуюць чытачоў толькі дзесятага студзеня... Гуляем...

**P.S.** Двухтыднёвае калядна-навагодне-каляднае святкаванне навяло і на яшчэ адну (камусьці, мажліва, падасца — блюзнерскую) думку: сутыкненне юльянскага і грыгарыянскага календароў якраз на Беларусі паказвае не парадаксальнасць, а абсурднасць строгага прытрымлівання пэўных канонаў. Увесь свет (у тым ліку і праваслаўныя краіны Грэцыя, Балгарыя) адмовіўся ад юльянскай сістэмы адліку часу і перайшоў на грыгарыянскую. Чаму б не зрабіць тое ж самае на Беларусі, каб было і справядліва для ўсіх вернікаў і святаў памянела? Але, але... Для гэтага нам спачатку трэба было б мець сваю аўтакефальную праваслаўную царкву. Пакуль жа давядзецца спадзявацца, што на падобную рэформу адважацца ў Маскве...



# ЯШЧЭ ПЯЦЬ ПРЭМІЙ!



Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі заснавана новая прэмія — "За духоўнае адраджэнне". Дакладней, пяць штогадовых прэмій, якія будуць прысуджацца, паводле ўказа, "За выдатныя творы літаратуры і мастацтва, актыўную падзвіжніцкую дзейнасць у гуманітарнай галіне, накіраваную на развіццё прагрэсіўных мастацка-маральных традыцый, якія садзейнічаюць усталяванню духоўных каштоўнасцей, ідэй дружбы і братства паміж людзьмі розных нацыянальнасцей і веравызнанняў".

Нядаўна адбылося ганараванне першых лаўрэатаў новай прэміі. Сярод іх — народны артыст СССР прафесар Віктар Роўда, настаяцель храма ў гонар іконы Божай Маці "Усіх тужлівых Радасце" Ігар Карасталёў, міласэрная сястра Вера Плюшчава, удзельнікі вакальнага ансамбля "Чысты голас".

*На здымку: у час уручэння прэмій "За духоўнае адраджэнне".*

**Фота В. ТАЛОЧКІ, БЕЛТА**

# "НАЗЫВАЕМСЯ ГУЧНА. РОБІМ... МОЎЧКІ"

***Якраз на грамадскі ўздым ад перабудовы, якраз на незалежнасць складнікаў (рэспублік) "непарушнага" Саюза прыпала ўтварэнне Беларускага нацыянальнага цэнтра Міжнароднага інстытута тэатра ЮНЕСКА на чале з прэзідэнтам — драматургам Аляксеем Дударавым. Ды сабрацца, пагаварыць і вырашыць, што такі цэнтр патрэбны, запісаць рашэнне ў пратаколе — далёка не ўсё, што патрэбна дзеля таго, каб цэнтр пачаў працаваць і набыў прызнанне.***

У лістападзе 1992 года я была прызначана генеральным сакратаром нашага цэнтра. Узялася за падрыхтоўку неабходных дакументаў для рэгістрацыі ў Мінюсце РБ і МІТ ЮНЕСКА. Больш за паўгода пайшло на тое, каб іх падрыхтаваць, узгадніць і прайсці рэгістрацыю! Вар'яцкая работа. Затое Беларускі нацыянальны цэнтр МІТ ужо прызнаны МІТ ЮНЕСКА... У першы ж год з'явіліся кантакты з нацыянальнымі цэнтрамі розных краін. Атрымліваем шмат інфармацыі пра тэатральныя падзеі, што адбываюцца ў свеце. Летам 1993 года мяне запрасілі на XXY кангрэс МІТ ЮНЕСКА ў Мюнхене. Дзякуючы спонсарам і нямецкаму цэнтру МІТ я змагла паехаць на гэты кангрэс, выступіць там з дакладам пра беларускі тэатр, паказаць афішы, праграмы, праспекты нашых спектакляў. Якой шчырай была цікавасць да беларускага тэатра! У выніку наш 1-ы Міжнародны фестываль монаспектакляў "Я" быў унесены ў агульны план работы МІТ ЮНЕСКА і прычакаў шмат прадстаўнічых гасцей з Францыі, Германіі, Нарвегіі, Англіі, Польшчы. Верагодна, многія помняць гэты фестываль і Міжнародны семінар "Выжыванне тэатра краін усходняй Еўропы ў новых сацыяльна-эканамічных умовах" з удзелам гасцей і прадстаўнікоў беларускага тэатра.

Шмат чаго з таго часу было зроблена нашым цэнтрам. Упершыню ў тэатральнай гісторыі беларускія мастакі-сцэнографы прынялі ўдзел у вельмі прэстыжнай міжнароднай выставе "Пражская квадрыенале-95". Паводле ейных вынікаў Зіновій Марголін атрымаў высокую ўзнагароду — "Срэбную трыгу". (Падобную ўзнагароду за 20-гадовую гісторыю выставы атрымалі два мастакі былога СССР). З удзелам і паводле ініцыятывы Нацыянальнага цэнтра МІТ спраўдзіўся міжнародны сімпозіум "Тэатр канца XX стагоддзя. Пошук новых вымярэнняў", які адбыўся ў снежні 1995 года (прынялі ўдзел спецыялісты з 15 краін свету). У кастрычніку 1996 агаралі II-ы Міжнародны фестываль монаспектакляў "Я". Узялі ўдзел у некалькіх міжнародных фестывалях і сімпозіумах — са спектаклямі і выступленнямі. Спрыялі пастаноўцы спектакля "Малышка Эліс" паводле п'есы Э.Олбі ў Маладзёжным тэатры. І гэтак далей, і да таго падобнае.

Мэтай нашага цэнтра з'ўляецца работа па некалькіх камітэтах: драматычных і музычных тэатраў, драматургіі, камунікацый, тэатральнай адукацыі, культурнага самаразвіцця нацыі, сусветнай энцыклапедыі. Мы атрымліваем вялікую колькасць пошты, у якой змяшчаецца багатая інфармацыя пра фестывалі, конкурсы, семінары, канферэнцыі, навінкі драматургіі і тэатразнаўства. Вельмі хочацца распаўсюдзіць інфармацыю — мы займаемся і яе падрыхтоўкай для ўсеагульнага карыстання.

У 1997 годзе плануем правесці Міжнародны фестываль тэатральных школ у Мінску і на яго базе — сімпозіум "Тэатр усходняй Еўропы. Сучасная тэатральная адукацыя. Месца тэатра ў культурным жыцці грамадства". Плануем прыняць удзел у Міжнародным фестывалі "Шылераўскія дні-97" (Мангейм); у XXVI Кангрэсе МІТ ЮНЕСКА, які адбудзецца ў Сеуле. Вельмі хацелася б паказаць там наш беларускі спектакль, але... Так, ці мала чаго мы хочам. Называемся — гучна. Робім... моўчкі. У нашага Цэнтра ёсць сувязі, ідэі, але няма сродкаў. Працуем на голым энтузіязме. Усё, пра што я расказала, было зроблена сумесна з нашым Саюзам тэатральных дзеячаў пры фінансавай падтрымцы спонсараў, Беларускага фонду Сораса і Міністэрства культуры РБ. Цёплы дождж рынкавай эканомікі змяніўся на сцюдзёны вецер. "Новыя беларусы" вымярзаюць, не прычакаўшы росквіту. З кожным днём усё больш расце дэфіцыт бюджэту. І ўсё ж... Я вельмі ўдзячная Савету Міністраў РБ за падтрымку і разуменне нашых праблем, за дапамогу ў аплаце членскіх узносаў за наш Цэнтр у МІТ ЮНЕСКА. Гэта дае маленькую надзею, што наш нацыянальны цэнтр МІТ не вымерзне.

**Антаніна МІХАЛЬЦОВА, генеральны сакратар БНЦ МІТ**

# ШЧАСЛІВАЯ ПРЫКМЕТА

Даўно супрацоўнічае з Брэсцкім тэатрам драмы і музыкі рэжысёр і балетмайстар з Гародні Валянцін Шчарбін. Менавіта ён ствараў харэаграфію для "Жаніцьбы Фігара", "Начной санаты", "Крамяных яблыкаў".

У снежні на берасцейскай сцэне адбылася даўно чаканая прэм'ера. Валянцін Шчарбін упадабаў п'есу Ніла Саймана "Асуджаны другой авеню". Спектакль атрымаў назву "Мелодыя другой авеню".

Спектакль быў хораша прыняты гледачамі, бо праблемы, з якімі сутыкаюцца яго героі, добра знаёмыя берасцейцам. Эдна і Мэл Эдзісан дасягнулі таго крытычнага ўзросту, калі людзі міжволі пачынаюць думаць пра няўхільны надыход "чорных" дзён...

Някідкую, але дакладную сцэнаграфію і цікавыя касцюмы прапанавала Таццяна Карвякова. Пастаноўка шчодра аздоблена цудоўнаю музыкаю Васіля Кандрасюка. Танцы ў выкананні маладых акцёраў тэатра дапамагаюць яскравей адчуць рытм жыцця мегаполіса і разгубленасць чалавека, які перажывае вымушаную няпоўнасць і пустату існавання. У галоўных ролях заняты Міхаіл Мятліцкі, Лігія і Віктар Міхайлавы і пяць Тамар — Багрэева, Валчэцкая, Кірына, Ляўчук, Майсеенка. Гэтую акалічнасць рэжысёр палічыў шчаслівай прыкметай і не памыліўся.

**З. Д.**

# ПРЫСВЯЧАЛАСЯ МАЙСТРУ

Як вядома, 1996-ты год ЮНЕСКА абвясціла годам Дзмітрыя Шастаковіча, якому споўнілася б 90. Таму канцэртны сезон азнаменаваны выкананнем ягоных твораў. А ў Беларускай акадэміі музыкі адбылася навукова-тэарэтычная канферэнцыя "Да 90-годдзя Д.Д.Шастаковіча".

Ладзілі яе некалькі кафедраў акадэміі: тэорыі, гісторыі музыкі, харавога дырыжыравання, фартэпіяна, струнных інструментаў, камернага ансамбля, спеваў. Падрыхтаваныя да канферэнцыі стэнды адлюстроўвалі гісторыю выканання і вывучэння музыкі Шастаковіча ў Мінску, прадстаўлялі выказванні равеснікаў кампазітара, работы студэнтаў і аспірантаў акадэміі, розныя артыкулы, афішы. Загадчык кафедры тэорыі музыкі дацэнт Т.Цітова прадумала для выступоўцаў памятныя падарункі (касету з запісам твора Шастаковіча і ўласнага выступлення дакладчыка, фотаздымак "за кафедрай"), што ўсіх прыемна ўразіла. Ідэйным кіраўніком у падрыхтоўцы і правядзенні канферэнцыі была прафесар кафедры тэорыі музыкі Н.Юдзеніч. Шэраг дакладаў быў падрыхтаваны пад ейным кіраўніцтвам. Вельмі пранікнёна прагучала і ўласнае паведамленне Ніны Мікалаеўны "Слова пра Шастаковіча", каштоўнае асабістымі ўспамінамі.

Усе тры дні, у час якіх праходзіла канферэнцыя, былі насычаныя навуковымі чытаннямі (27 дакладаў), многія з іх суправаджаліся больш-менш разгорнутымі музычнымі ілюстрацыямі. Паміж пасяджэннямі адбываліся канцэрты сімфанічнай, камерна-інструментальнай, камерный вакальнай і інструментальнай музыкі Шастаковіча. Выканаўцы — Сімфанічны аркестр БАМ (дырыжор М.Казінец), Камерны аркестр акадэміі (дырыжор В.Сарока), салісты.

Асабліва запомніўся дуэт: студэнтка ІІ курса Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі А.Іёніна (скрыпка) і студэнт ІУ курса Беларускай акадэміі музыкі Ю.Бліноў (фартэпіяна) выканалі Першы скрыпічны канцэрт. Былі выкананы і творы А.Шнітке: Прэлюдыю для дзвюх скрыпак (памяці Шастаковіча) сыгралі студэнты ІІІ курса А.Яканюк і асістэнт-стажор Ю.Герман, а "Прысвячэнне І.Стравінскаму, С.Пракоф'еву, Д. Шастаковічу" для раяля ў 6 рук — лаўрэаты міжнародных конкурсаў Г.Гетманава (ІІ курс), Н.Пазнякова (ІІІ курс), А.Мяцельская (У курс).

Шмат моладзі выступіла з дакладамі: студэнтка Брэсцкага музычнага каледжа Н.Кавальчук, вучні Рэспубліканскага ліцэя пры Акадэміі музыкі Т.Багданава і А.Сімкіна, студэнты розных курсаў акадэміі Д. Сляповіч, А. Кабановіч, А. Казлоўская, А. Грынько, Д. Дрыгайла, Т. Сакалоўская, Н. Аруцюнава, Н. Ксёнц, А. Рыжанькая, С. Зміеўская і А. Багачэнка, аспірантка кафедры гісторыі музыкі В. Малахоўская, В. Масяйчук. Усе працы былі выкананы пад навуковым кіраўніцтвам педагогаў, многія з якіх і самі ўзялі актыўны ўдзел у канферэнцыі. Гэта прафесар Н.Юдзеніч, дацэнты Т.Цітова і І.Галавач, Н.Сцяпанская, Ю. Златкоўскі, выкладчык А.Галкін (усе — з Акадэміі музыкі), выкладчык Навапалацкага музычнага вучылішча А.Васільева, аспірантка Расійскай акадэміі музыкі Р.Галеева. Увогуле, у дакладах асвятляліся самыя розныя пытанні, звязаныя з вакальнай, опернай, сімфанічнай, фартэпіяннай, камерна-інструментальнай творчасцю кампазітара. Шастаковіч паўстаў перад намі і як піяніст, рэдактар.

Безумоўна, выбітнай падзеяй стаўся прыезд на канферэнцыю выдатнага дырыжора 60-х Віталя Катаева, які, працуючы тады ў Мінску, літаральна "прабіваў" прэм'еры, выкананне твораў "забароненых" кампазітараў Хіндэміта, Стравінскага, Шастаковіча на беларускай філарманічнай сцэне. Ён асабіста ведаў Дзмітрыя Дзмітрыевіча і расказаў нямала цікавага і пра яго, і з гісторыі выканання Шастаковічавай музыкі ў Мінску.

Канферэнцыя мела вялікі поспех і шырокі розгалас, праходзіла пры поўнай зале людзей. Хочацца спадзявацца, што яе вынікам стане выданне зборніка тэзісаў дакладаў.

**Наталля КСЁНЦ**

ЭКСЛІБРЫС

# "НА КАЛЯДЫ"

*Эдуард АКУЛІН. На Каляды (Містэрыя ў 4-х актах). Мн., Беларуская каталіцкая грамада. 1996 г.*

**Дзякуючы посткамуністычнай адлізе, мы зараз маем некалькі сваіх народных (дзяржаўных) святаў. Адное з іх — Каляды. Гэта хіба ці не самае найрадаснае свята, якое літаральна за некалькі гадоў паўстала з небыцця, адрадзілася і заквітнела, пацясніўшы нават свецкі Новы Год.**

**Таму з'яўленне вершаванай містэрыі Эдуарда Акуліна "На Каляды" бачыцца справай натуральнаю. Апроч усяго, вядома, што сам паэт — цудоўны артыст-батлеечнік. Ягоныя лялечныя спектаклі-батлейкі, якія ён ладзіць у філіі музея М. Багдановіча ў Мінску — у Беларускай Хатцы, нікога не пакідаюць абыякавымі і маюць нязменна высокую міжнародную ацэнку. Праца над містэрыяй была для яго справай прафесійнага гонару.**

**Містэрыя пераказвае традыцыйны батлеечны сюжэт аб нараджэнні Хрыста. Але зроблена гэта вельмі жыва і цікава, а захапляльнай дынамікай, разнастайнай рытмікай, нечаканай вобразнасцю, добрай беларускай мовай, якой Эдуард Акулін валодае проста віртуозна. У гэтым сэнсе яго можна параўнаць хіба што толькі з Рыгорам Барадуліным. Мова паэта, лёгкая і мілагучная, адзін з найдаражэйшых набыткаў ягонае творчасці.**

**Не зацягваючы дынаміку сюжэта містэрыі, разлічанай найперш для сцэны, паэту ўдаюцца і даволі глыбокія духоўныя, філасофскія рэмінісцэнцыі:**

***Жыццё, як дым, плыве маркотна,***
***Знікаюць дні, лятуць гады.***
***І па шляху ў незваротнасць***
***Узрост мінае малады.***

***Душа ў слязах, душа, як свечка,***
***Самотна плача па начах...***
***Маўчыць падзорная сінеча, —***
***Няўжо душу не чуе Бог?***

**Выклікае замілаванне сцэна вітання маленькага Езуса беларускім дзіцём:**

***А я з таго краю, дзе белыя гусі***
***Губляюць пярынкі***
***між промняў аеру...***
***О, Божа, у сэрца маёй Беларусі***
***Вярні сваёй сілай Каханне і Веру!***

***Каханне і Вера — яны ўратуюць!***
***Каханне і Вера —***
***адродзяць народ мой!***

**Натуральна, што гэтыя словы не маглі быць сказаны амаль дзве тысячы гадоў таму, але ж не памылюся, калі адзначу іхнюю актуальнасць хаця б за апошнія 400 гадоў. Бо толькі там, дзе ёсць свая дзяржава і хрысціянская культура, — там існуе еўрапейская цывілізацыя.**

**Містэрыя разышлася па Беларусі і на гэтыя Каляды ставіцца дзецьмі і ў Мінску (дзве трупы), і ў Баранавічах, і на Мёршчыне. Зазначу, што гэта каталіцкі варыянт містэрыі, які, пры жаданні, лёгка перарабляецца на праваслаўны манер.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

СПАДЧЫНА

# КАРЦІНА ВЯРНУЛАСЯ НА РАДЗІМУ

Нядаўна ў Лондане ўдава мастака М.Богуша-Шышкі лэдзі Сэсілі Сондэрс перадала на захаванне ў Нацыянальны мастацкі музей Беларусі карціну мастака "Цуд у Кане", якая была створана ў 1960 годзе.

М.Богуш-Шышка (1901—1995гг.), які лічыцца адным з найбольш знакамітых прадстаўнікоў польскага экспрэсіянізму, нарадзіўся ў вёсцы Тракенікі (цяпер уваходзіць у склад Астравецкага раёна), але ўвесь час пасля другой сусветнай вайны жыў у Лондане. Яго творчасці прысвечаны шэраг манаграфій і публікацый.

Жонка Богуша-Шышкі з'яўляецца заснавальніцай сістэмы хоспісаў — устаноў, дзе дапамагаюць невылечным хворым. Лэдзі Сондэрс сёлета наведала радзіму мужа, дзе сустрэлася з прафесарам А.Мальдзісам. Сустрэчы ў Тракеніках пакінулі ў яе вельмі добрае ўражанне, вынікам чаго стала рашэнне перадаць частку работ мастака на яго радзіму. Шэраг літаграфій мастака будзе экспанавацца ў культурным цэнтры Тракенікаў. Наладжваюцца таксама кантакты паміж хоспісам, які кіруе лэдзі Сондэрс, і Беларускім дзіцячым хоспісам.

**Н.К.**



*Лэдзі С. Сондэрс перадае карціну паслу Беларусі ў Вялікабрытаніі У. Шчаснаму.*

# АДНАГО ЭНТУЗІЯЗМУ — МАЛА...

## ЦІ БУДЗЕ Ў ГОМЕЛІ МУЗЕЙ Ф. СКАРЫНЫ?

Набліжаецца вялікая вяха — 480 гадоў з дня выхаду першай кнігі, надрукаванай Ф. Скарынам кірылічным шрыфтам і на мове, максімальна набліжанай да мовы беларускай. Адзначаць гэты дзень мы будзем 6 жніўня 1997 года. Свята вельмі важнае, яго патрэбна адзначыць на дзяржаўным узроўні і падрыхтавацца вельмі сур'ёзна. На нашу думку, адным з асноўных пунктаў падрыхтоўкі святкавання можна было б зрабіць музей-лабараторыю Ф. Скарыны Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны.

Сёння ў музеі-лабараторыі працуюць тры штатныя работнікі з вышэйшай адукацыяй, непасрэднае адміністрацыйнае кіраўніцтва калектывам ажыццяўляе прарэктар па вучэбнай і выхаваўчай рабоце, кандыдат філалагічных навук М. М. Воінаў. Калектыў цесна супрацоўнічае з лексікаграфічнай лабараторыяй, якую ўзначальвае прафесар кафедры беларускай мовы, адзін з самых вядомых скарыназнаўцаў, доктар філалагічных навук У. В. Анічэнка.

Уладзімір Васільевіч аказвае нам істотную практычную і навуковую дапамогу. У склад музея-лабараторыі ўваходзяць на грамадскіх пачатках каля дзесяці студэнтаў І—V курсаў філалагічнага факультэта.

Музей займае 3 невялікія пакоі. У самым большым разгорнута экспазіцыя "Ф. Скарына ў мастацтве і літаратуры". Гэта адзіная музейная экспазіцыя, але і яна, на жаль, не адпавядае асноўнай сутнасці музея Ф. Скарыны ці не поўнасцю адлюстроўвае жыццёвы і творчы шлях Ф. Скарыны.

Музей-лабараторыя Ф. Скарыны існуе з 15 мая 1993 г. За гэты час праведзена супрацоўнікамі каля 200 экскурсій, для студэнтаў, навучэнцаў, школьнікаў, вучоных, дзеячаў культуры з Беларусі, Расіі, Украіны, ЗША, Англіі, Германіі, Польшчы, Францыі, Італіі і Кітая. Сабрана каля 400 экспанатаў — кніг, артыкулаў, карцін, скульптур, значкоў, марак, мікрафільмаў, ксеракопій і інш. Усё гэта складае менш чым 10 працэнтаў таго, што створана ва ўсім свеце пра Ф. Скарыну. У памяшканні музея-лабараторыі праводзяцца практычныя і семінарскія заняткі па беларускай мове, літаратуры і гісторыі.

Супрацоўнікамі ўкладзены і здадзены ў друк два зборнікі: "Летапіс пашаны і ўдзячнасці. Паэтычная Скарыніяна", "Сэрцам роднага слова краніся" (паэзія пра беларускую мову. На гэтую ж тэму ў 1990 г. намі быў выпушчаны зборнік "Каласы роднай мовы"). Падрыхтавана картатэка бібліяграфіі, твораў жывапісу, графікі, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прозвішчаў усіх, хто меў хоць якое дачыненне да Ф. Скарыны.

Калектыў музея-лабараторыі працуе па двух важнейшых напрамках, праводзіць экскурсіі і прапагандуе творчую спадчыну Скарыны; збірае, вывучае і сістэматызуе матэрыялы пра яго. Асобным напрамкам нашай дзейнасці з'яўляецца збор і сістэматызацыя матэрыялаў па гісторыі універсітэта, які ў 1997 г. будзе адзначаць 65-годдзе ўтварэння Гомельскага педагагічнага інстытута, пераемнікам якога ён з'яўляецца.

Упершыню за ўсю амаль чатырохсотсямідзесяцігадовую гісторыю Скарыніяны пачаты пераклад кніг Ф. Скарыны на сучасную беларускую. У сувязі з графічнымі, лексічнымі і семантычнымі адрозненнямі скарынінскай мовы ад сучаснай беларускай яго творы чытаюць і вывучаюць толькі спецыялісты і аматары. Завяршаецца пераклад прадмоў і пасляслоўяў Ф. Скарыны (206 старонак факсімільнага выдання ў энцыклапедычным даведніку "Францыск Скарына і яго час", "Кнігі суддзяў"), пачаты пераклад кнігі "Быццё".

Дзеючая цяпер экспазіцыя музея-лабараторыі была адкрыта 3 гады і 4 месяцы назад. Гэта значыць, што яе трэба абнаўляць. Больш таго, раз існуе музей-лабараторыя Ф. Скарыны, дык абавязкова павінна быць і сапраўдная музейная экспазіцыя, якая б нагляднымі сродкамі, матэрыяльнымі экспанатамі расказвала пра жыццёвы і творчы шлях Ф. Скарыны, мела б дзеючы макет яго друкарні, тэхнічныя сродкі (камп'ютэр, ксеракс і інш.) для дэманстрацыі матэрыялаў з жыцця і дзейнасці першадрукара. Патрэбны сродкі на камандзіроўкі па месцах жыцця Ф. Скарыны, у музеі і архівы, на шматлікія мерапрыемствы, прысвечаныя Скарыне, навуковыя і метадычныя канферэнцыі, на выпіску і пакупку сродкаў масавай інфармацыі і навуковай літаратуры, на асабістую арганізацыю і правядзенне ўласных мерапрыемстваў, на аплату заказаў па вырабе экспанатаў (макетаў, муляжоў і г.д.), на арганізацыю беларускага скарынаўскага пленэра...

Самы танны спосаб змены экспазіцыі — заключэнне дагавора з уладальнікамі кніг Ф. Скарыны, карцін, скульптур, бібліяграфічных рэдкасцей. Але для гэтага патрэбны не толькі сродкі, але і абсталяванне надзейнай аховы і сігналізацыі, што зноў (у сваю чаргу) упіраецца ў фінансавыя сродкі.

Калі б у нас была сапраўдная музейная экспазіцыя, тэхнічныя і фінансавыя сродкі (камп'ютэр, ксеракс), мы маглі б увесці платнае наведванне, выдаваць і распаўсюджваць вынікі нашых навуковых даследаванняў, распрацоўваць эскізы ўласнай нагляднай друкаванай прадукцыі.

Вельмі станоўча адбілася б на выніках працы вызначэнне статуса музея-лабараторыі. Найлепш было б надаць музею-лабараторыі Ф. Скарыны статус дзяржаўнага, пакінуўшы яго ў складзе ГДУ імя Ф. Скарыны. Ёсць жа дзяржаўныя музеі М. Багдановіча, А. Міцкевіча, Я. Коласа, Я. Купалы і г.д. Даўно пара адкрыць на Беларусі і музей Ф. Скарыны. Першапачатковая база яго і створана, на наш погляд, у Гомелі.

Каб хоць крыху палепшыць збор матэрыялаў пра Ф. Скарыну, мы звяртаемся да навуковай, культурнай грамадскасці нашай і замежных краін з просьбай — дасылайце, калі ласка, нам звесткі пра ўсе мерапрыемствы, якія прама ці нават ускосна датычаць Ф. Скарыны, а яшчэ лепш — накіроўвайце нам запрашэнні для ўдзелу ў гэтых мерапрыемствах на адрас: Рэспубліка Беларусь, 246699, г. Гомель, Савецкая, 104, універсітэт, музей-лабараторыя.

**Канстанцін УСОВІЧ,**
**загадчык музея-лабараторыі Ф. Скарыны,**
**ГДУ імя Ф. Скарыны**

*У мінулым нумары "ЛіМа" (N 1, за 3 студзеня) у публікацыі "Празаік, драматург, выдавец" на 14-й старонцы па віне рэдакцыі дапушчана грубая, недарэчная памылка.*

*Прашу прабачэння за гэтую памылку ў Анатоля Іванавіча Кудраўцава і яшчэ раз шчыра віншую яго з 50-годдзем.*

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

***Падчас маёй працы ў Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа АНБ мне давялося аб'ездзіць амаль усю Беларусь з мэтай даследавання беларускіх народных гаворак.***

***Нашыя дыялекталагічныя экспедыцыі далі добры плён: ужо выйшлі тры тамы пяцітомнага "Лексічнага атласа беларускіх народных гаворак", іншыя навуковыя працы.***

***У маіх сшытках, апрача навуковага матэрыялу, былі запісаны аповеды (расказы) вясковых жыхароў пра іх нялёгкае жыццё, якое, па словах адной жанчыны, то белае, то чорнае. Тут расказы і пра даваеннае жыццё, і пра вайну, і пра цяперашнюю нялёгкую "жытку".***

***Некаторых з гэтых людзей няма ўжо на свеце, другія жывуць у іншых мясцінах, пакінуўшы свае родныя з-за радыяцыі.***

***Чытаю гэтыя расказы і, здаецца, чую іхнія нягучныя галасы, бачу мазолістыя рукі, маршчыністыя твары, па якіх часамі скочваецца слязінка...***

***Няхай іхні роздум пра жыццё, іхнія надзеі на лепшае знойдуць водгук у вашым сэрцы. Няхай, як у грыбны, "цыганскі дождж", нечакана выблісне сонца...***

**АЎТАР**

Святлана ЛОБАЧ

# СЛЯЗІНКІ ЛЁСУ

Не люблю, калі мяне бабай завуць. Пытаюцца: "Баба дома?" А я ў адказ: "Бабы няма дома, панесла яйкі да аканома". Якая я баба, калі мяне ўпадабаў Тадзік?!

Сышліся з ім, ён шыфер паклаў новы на дах, усе дровы парэзаў, пакалоў. Цягнуў не так даўно дровы — радыкуліт схапіў.

Дык вось, хацела спярша да дачкі Альжуні перабрацца. Дом мелася прадаць. А тут дзед гэты падвярнуўся. Не вянчаліся, вэлюм не накладала: бо ў другі раз выходжу замуж.

Гэта раней рукі звязвалі хусцінкай, стаялі на ручніку. Нявеста зачапляла ручнік правай нагой і цягнула да цвінтара, каб дзеўкі цягнуліся замуж. Усе крычалі: "Цягні далей!" А сванька бяжыць, каб пакласці ручнік на месца. Тры разы выцягвалі. Бяруць шводку бабу за сваньку, каб была спраўна. Аж пасмяюцца, як далёка пацягне нявеста.

І я, каб столькі гадоў пражыўшы ды такое жыццё, плакала, была б даўно сляпой. Я нічога яшчэ баба.

Другія ідуць, персямі (цыцкамі) хлопаюць. У мяне ўсё ў парадку. Тадзік часам кажа: "Навошта ты метрыку падагнала? Ты і так асадна, поўна, спрытна". Я ж бачу, як ён да мяне ставіцца. Пражыла я, лічы, жыццё ў горы. Трэба было пасля вайны ўсё нажываць. Жабравала нават.

Як пажаніла дзяцей, думала, буду па гасцях ездзіць. Ды дзе там! Дзень-два ў дачкі пасяджу, зяць зругае яе, скалоціць, змалоціць.

Выжане яна яго — прыйдзе, просіцца. Вучоны, відны такі, а паводзіць так, што немагчыма перажыць. Вось і не езджу да іх.

Праўду кажучы, мы з Тадзікам і раней украдкам жылі. Ніхто на свеце не бачыў, каб ён пры людзях мяне абняў. А цяпер прытуліць лёгенька і так ціха праспявае: "Любая, харошая, Не хадзі ты босая, Босая застудзішся, Пра любоў забудзешся". Пачую — лепшы настрой робіцца. А сёння мой настрой сапсавалі. Пакарміла я козачку, ён вады прынёс. Селі — у карты перакінуцца. Угледзела, столькі храсцей у мяне казырных... перад гульнёй я бульбу свінням у чыгуне паставіла варыць ў ляску, бо ў хаце горача. Потым пайшла паглядзець, падкінуць палак у агонь — чыгун ўкралі, бульбу выбралі.

Уздумала, гэта ж недалёка дзеці на полі буракі палолі. Ішлі назад як бы без чыгуна. Ён цяжкі, можа, дзе ахнулі. Хай іх холер пабярэ!

●

У яго была мянушка — Мядзведзь. У дзяцінстве быў кацалапы, худы, а потым здаровы, харошы зрабіўся, як мядзведзь. І любіў расказваць, што некалі па вёсцы вадзілі мядзведзяў. І як бы мядзведзь папрасіў яго дзеда пільнаваць, каб муха яму на нос не села. Дзед прыгатаваў камень, убачыў муху, як змахнуў яе тым каменем — ды той камень мядзведзю па носе... Мядзведзь зароў: "Ты чаго, дурань?" А дзед: "Дык чым я зжану муху?" Можа, і набрахаў, але мы, дзеці, усе яму верылі.

І вось бачу сёння стаіць Мядзведзь з Зюнікам. Міліцыянер з чорнымі вусамі побач. Як толькі Мядзведзь адвярнуўся, во гэтая шчака пабітая, чорная. Страшны, благі. Сын яго ўсё мсціцца. А гэты Мядзведзь Іван зямлю, ох, і знае! І хату зрабіў асобную, Кафлямі грубку павыклаў. А яна, жонка яго, — мумка, сама сябе раз у год любіць, нелюдзь, ні да Бога, ні да людзей. Благая, старая.

Я некалі любіла Мядзведзя. Але ён пагнаўся за багаццем. Узяў гэтую мумку.

Убачыць мяне: "Дакуль ты ўсё будзеш харашэць, прыбірацца?"

А я яму: "Так доўга, як буду жыць. Як ты будзеш жыць..."

●

"Чаму ў цябе няма завушніц залатых? Каб твой мужык грошы прапіваў — дык не...", — пытаюцца суседкі. Не да завушніц было, хаця мае вушы паколаты з дзявоцтва. Нітку суровую зацягнулі, вушы абрывалі тыя ніткі. Для здароўя галавы я лічу лепш сярэбраныя, чым залатыя завушніцы. Падрасла дачка, я падарыла ёй свае сярэбраныя завушніцы. Каб загнёныя былі добра, дык не. Дзеўкі, хлопцы аднойчы шалелі — і завушніцы згубіліся, вуха нават у дачкі разаравалася. Як пачалі шукаць, а яны расцерліся, пакалоліся.

Дачка да мяне: "Мама, памятка твая..." Што ім — дзецям! Гэта мы не ведаем ні выхаднога, ні праходнога. Купіла другія, залатыя завушніцы.

А дачка кажа: "У Веркі — з брыльянтам, не тое, што ў мяне". Я зіму, лета — адным цветам, у адным хаджу. А ўсё ёй — дачцэ.

●

Бачу праз сон: хаджу ля млына. Далей — ваўначоска маленькая. Толькі прысядаць стала — жалезіна, хап за жалезіну...

Панеслі воўну часаць. Пасы зваліліся. Я кінулася падымаць. Руку — у машыну, скуру — на тарку, пальцам невядома што зрабілася. Кроўю занясло ўсё. Надумалася мачой прыкласці, бо могуць пальцы зрасціся ў адно месца.

Як тут не верыць у сны?

●

На мяне казалі: "Дзеўка русога воласа, яна шчаслівая: перад велькім святам нарадзілася — Вялікаднем".

Выйшла за Паўла. Нічога сабе хлопец. І імя лёгкае. І жыць хацеў лёгка. Паўлітры аб'елі яму горла. Якія былі грошайкі — пусціў на вецер. Потым з мяне пачаў здзекавацца. Хваціў раз за плечы і ахнуў мяне аб кант.

Маці да яго: "Ты языком трапі, а рукам волі не давай!" Ён і ёй надаў. Кроў лілася ў рукавы.

Памкнулася я сказаць: "Дай ты мне спакойна пайсці ад цябе" — ды зноў атрымала. Я з-за дзіцяці ўсё цярпела ад яго. Што ад мяне засталося? А, бывала, хто гляне — той стане.

Аднойчы папратала ў хаце. Сабрала такія-сякія рэчы. Выйшла на вуліцу. Анюта, сястра яго, зарганізавала, каб мяне ў кабіну ўзялі. Я ж з дзіцем у кузаў не залезу.

***Як была я малада —***
***Такая была рэзва:***
***Цераз плот у агарод***
***Па маркоўку лезла.***

Што за напасць у галаву лезе? Павэдлі мяне, не была я шчаслівая. А ці буду? Як бы там ні было, чым далей я ад'язджала ад Паўлавай — і маёй — хаты, тым спакайней рабілася на душы. Дыханне стала зусім другое.

●

Паблажэў ён у горадзе. А як прыедзе на возера рыбу лавіць — другі, здаецца, чалавек. Акрыяе, свежы такі, як вецер. Рыб усіх ведае, як свае пяць пальцаў. І пра іх мне ўсе вушы пратрубіў.

Вось, кажа, ёсць белая рыба — лешч, язюк і іншыя. У ёй луска ёсць. Чорная рыба — лін, у яго лускі няма, сазан — драпежны.

Зімой ідзе белая рыба, потым — астатняя. Калі прабіў прадуху, белая рыба ідзе, потым лін. Самым апошнім выходзіць уюн. Пішчыць, як камар, калі пасыпеш соль, можа быць і ў балоце, галоўнае, каб была вада і бруд.

У сакавіку расліны выдзяляюць вуглекіслы газ. Рыба ідзе ў прадуху, бяры сачок — і лаві. Чым меншая прадуха, тым лепш ідзе.

Вось жэрах — плоскі, белы, многа касцей. Клень мае такі вялікі рост, што цэлая бульбіна ўлезе. У шчупака шмат зубоў: зачэпам бярэ вокуня за спіну, каб задушыць, бо ў таго з галавы і хваста калючкі тырчаць.

У Нёмане шчупак доўгі і тонкі, як лапата. Таму, што там плынь, свежая вада. Вокуня на жыўца бяруць, на бульбу. Ён драпежны. Лешч і плотка не драпежныя. Ёрык стары, худы.

У сома чатыры вялікія вусы і чатыры маленькія. Блакітныя вочы. У язя — зялёныя.

Пісалі, што меч-рыба ф'юць — і прабівае карабель.

У кожнай рыбы свой характар, свае паводзіны, як і ў чалавека.

●

Шчаслівыя тыя бацькі, якім Бог дае добрых дзяцей. Суседчын сын, бывала, турыць маці: давай грошы. Яна парасёнка тады была прадаўшы. Аддала сыну грошы, той і з'ехаў недзе з бязногім.

У другой суседкі сын з арміі прыйшоў. Як хто яго зачэпіць, ён нагу як падніме, як дасць — і ўсе ляжаць покатам. Як што — дык біцца.

А майму сыну захацелася купіць гармонік. Ён за мяне: "Зраблю тачку, лазу буду драць, гармонік куплю". А сам — кулём у кузню: навёў тачку. Надраў лазы. Прадаў. Атрымаў за гэта грошы. Паехала я з ім на базар. Жанчына стаіць невялікага росту, а як дасць на гармоніку барыню, людзі да яе горнуцца. Купілі гармонік.

З тае пары сын стаў іграць на вяселлях, улазінах, на дажынках.

Хто прыйдзе дадому — ды за чарку. А сын — за гармонік. Пайграе — і лягчэй і яму, і ўсім зробіцца. Жыццё святлейшым здасца.

●

У кожнага свая планета ёсць, свая доля. Мае значэнне, у які ты дзень нарадзіўся.

Кажаш, злюбіўся з другой, дачку тваю кінуў. Рэзка павярнуў...

Мілка мая — гэта гора, але не зусім. Паўбяды. Абы самой быць у аўтарытэце. Мужыкоў яшчэ ёсць. Гэта не яе лёс.

Вось у мяне мужык цяпер... Першая ягоная — жорсткая такая была. І ён абы-які зрабіўся. А са мной у вялікай кампаніі чарачку вып'е — і ўсё. Паездзе на калым — вязе мне грошы, падарунак.

А я яго — цок-цок у шчаку, у лоб. Абшчаплю, павісну на шыі, цалую.

А ён: "Красуня мая, дарагуша".

●

Я з людзьмі люблю быць. Хай людзі са мной гавораць. Мой мужык так затлуміць мне галаву за дзень! Нешта мармыча, слоў разабраць не магу, чапляецца абы за што. Вядома, стары чалавек. А то ні з таго, ні з сяго псіхане: усё строішся, два вякі жыць не будзеш. Адпіла, кажа, ад'ела — чакай: наперадзе зялёны гаёчак.

А ў самога печань уся гнілая.

●

Прыйшоў п'яны, прыстаў да Сахвеі: дай грошы. Яна як дасць яму наводмаш. А ён усё трасе жанчыну. Хаты нашыя побач. Расчыніла я дзверы: "Ратуйце, бабу душаць!" Дабегла да суседа Ігната: "Браток, Ігнат, дапамажы". Сама кулём да сябе на двор, у сені. Дзверы засунула. Мужык Сахвеі ўхапіў колік: "Не ёй, а табе рэбры паламаю!"

Я яму: "Узыдзеш, сыны прыйдуць, разарвуць, як кацёнка..."

Сахвея потым гаварыла: "Як цябе Бог наўміў? А то са мной невядома што і было б. А так ён ад мяне адчапіўся..."

"Ды кінь ты, — кажу ёй, — я не люблю, каб баб крыўдзілі. Ты і так гарованая".

Па праўдзе казаць, я люблю, каб гамон быў.

●

Мабыць, такі лёс чалавека. Залсўка кажа: "Я табе лодку падганю". А бура ваду калыша. Стала ёй блага, у галаве пахінулася — і ў ваду яна ўпала. Захлынулася, затапілася. Нешта мяне таўханула: Хведзева ўтапілася. Не магла ні піць, ні есці. У сне бачыла: прыляцелі дзве птушачкі, дзве роўненькія, шэранькія. Я адну на руку — сама птушачка лашчыцца. Толькі да другой хачу падысці — тут вачыма луп-луп і абудзілася.

●

Нас у маці шасцёра было. Трое памерла. Я самая большая. Калі разгаруюся — трэба ж, меншыя памерлі, а я жыву.

Бывала, павесіш серп на плечы ўлетку — на ячмень, а скінеш па восені — на лубін. Скірдавалі жыта, на скірдах я была самая большая. Маці не стыкалася ў хаце. Я была за дамаху.

І коней двое было, потым аднаго прадалі. Сваё ткалі, фарбавалі, шылі хлопцам папаны, як гімнасцёркі.

Сама я семярых узрасціла, мая ты зязюлька. І работала па людзях за кусок хлеба. Усе мае дзеці ў раскідах. Меншы пры мне, не жэніцца. Дачка прыязджала, двойка дзетак з ёй.

Не пайшлі ні ў блуд, ні ў крадзёж мае дзеці. Мужык быў бухгалтарам, недзе з'ехаў.

Звярталася да Бога з просьбай, каб мужык вярнуўся, каб лёс паспрыяў мне! Дзе там! Пакуль да Бога дабярэшся, апосталы шыю намнуць.

●

Усё матылі ўваччу лятаюць. На правае вока бачу праз шчылінку.

Як устану раніцай, вады трэба прынесці, дроў. Макаронкі звару ці заціwithрачку, а тварог які харошы, жоўты, як масла.

Ледзь памыю, але лягу ў белым, у цёплым. На фэсце будзеце?
"Што-та горла тарачыць, тарачыць,
Трэба горла прамачыць, прамачыць".
Запяю ды прысмяю.

●

У суседкі карова завецца Мачаха, у другой — Цыганка, чорная спрэс, як тая цыганка. Яшчэ ў адной Перапёлка — стракатая карова, закацісь, такой не знойдзеш.

І мая Беласпінка — золата. Васемнаццаць літраў малака дае. Рамулька — маладая — дванаццаць. Тры вядры, як вады. Хаця ў мяне і зяць, і сын, і нявестка, і дачка — усім хапае і сыру, і масла, і малака. Сыну — кабана, зяцю — кабана. Дзеці — усе па сабе. Усё адно трэба даць кожнаму торбу. Яечка — дай, смятаны — дай, капчоначкі, масла па слоічку.

Я трымаю кароў, свіней. Дзеці муку прывозяць. Жывуць добра. Францяць, шчыгіляюць, ходзячы. А мне людзі кажуць: "Нашто ты так веле робіш?"

●

Гарадзішчайка — гара. Касцёр раскладалі на Купалу. Спявалі: "Той, хто Купалу разлажыў, каб яму Бог жыццё прадаўжыў".

Марусін голас усіх перабіваў. Скакалі праз касцёр. Калі цёмна рабілася, ля пнёў свяціліся светлякі. Рожа ці пухліна ў каго-небудзь, святлячка знайсці, расцерці, за скуру зойдзе, ручкі змый — і загаворвай.

Як паўміраюць старыя, не будуць ведаць прымавак, замоў. Многа чаго не будуць

*(Працяг на стар. 14—15)*

## БЕЛАРУСКІЯ ВОБРАЗЫ
## Eastern-Visions



**У пачатку восені 1996 г. у ЗША пабачыў свет чарговы выпуск паэтычнага альманаха Visions International (Інтэрнацыянальныя вобразы), дзе надрукаваны вершы беларускіх паэтаў Алеся Разанава і Анатоля Сыса.**

**Вось як характарызуе гэты выпуск у прадмове да яго Брэдлі Страхан. "Назва гэтага спецыяльнага выпуску — "Усходнія вобразы", альбо дакладней "Паэзія сучасных краін, якія ўваходзілі ў сярэднявечнае Польска-літоўскае каралеўства" (ясна, што гэта назва апісальная і вельмі доўгая). Калісьці гэтае царства было самай магутнай краінай ва Усходняй Еўропе: да яго належалі сучасныя Беларусь, Літва, Польшча і Украіна. Дзеля таго, каб трошкі "скругліць" геаграфію, мы дадалі вершы паэтаў суседніх краін: Чэшскай рэспублікі, Венгрыі і Славакіі. Ідэя менавіта такой анталогіі належыць рэдактару Майклу Шпорэру, які паходзіць з Польшчы. З яго дапамогай мы знайшлі вершы некаторых з лепшых паэтаў гэтага рэгіёна, творы якіх у перакладзе на англійскую вы, хутчэй за ўсё, больш нідзе не сустрэнеце. Таму спадзяёмся, што гэтае унікальнае знаёмства прынясе вам асалоду..."**

**Гісторыя згаданай публікацыі такая: у маі я атрымала па электроннай пошце паведамленне ад доктара Майкла Шпорэра (ён працуе ў Бібліятэцы Кангрэса, а таксама вядзе там "Польскі "круглы стол", на якім я выступала з дакладам пра жаночае пытанне ў посткамуністычных краінах у канцы 1995 г.) наступнага зместу: "Складаем зборнік паэзіі Усходняй Еўропы. Ці не дашляце што-небудзь з Беларусі?" Я пераклала і адаслала, таксама па электроннай пошце, некалькі вершаў А. Разанава і А. Сыса. Часу было ўсяго некалькі дзён, і зараз я прашу ў паэтаў прабачэння за сваё пірацтва ў галіне іх аўтарскіх правоў. Вельмі хацелася, каб Беларусь прысутнічала ў сусветным культурным кантэксце...**

**Алена ГАПАВА**

## ШТО НІ РЭГІЁН — СВАЕ ТРАДЫЦЫІ

**Народныя святы, абрады, звычаі... У кожным кутку Беларусі яны па-свойму адметныя і непаўторныя. І каляды ў гэтым сэнсе — не выключэнне. А што гэта і на самай справе так, можна ўпэўніцца, пазнаёміўшыся з артыкулам М. Барычэўскай "Каляды ў Дзятлавічах Лунінецкага раёна", змешчаным у чацвёртым нумары штоквартальніка "Беларускі гістарычны часопіс" за мінулы год. І іншыя матэрыялы гэтага аўтарытэтнага выдання закранаюць важныя моманты, што тычацца як нацыянальнай дачыны, так і дня сённяшняга, убачанага праз прызму мінулых падзей. Публікуюцца артыкулы галоўнага рэдактара "БГЧ" В. Кушнера "Гістарычная адукацыя і палітыка", В. Кучынскага, М. Улаховіча "Экалагічны крызіс і інфармацыйная палітыка ў Беларусі", Т. Доўнар "Фарміраванне права Вялікага княства Літоўскага (XV—XVI стст.)", І. Сервачынскага "Аграрная палітыка нацыстаў на Беларусі (1941—1944 гг.)", Н. Сліж "Статус жанчыны-шляхцянкі ў ВКЛ (XVI—XVIII стст.)", Л. Калядзінскага "Даследуецца Капыль", І. Чэбан "Мікалай Шчакаціхін і стварэнне нацыянальнага беларускага музея" і іншыя.**

ВЕРСІІ

Алесь ПАШКЕВІЧ

# "ГЭТА НАША ДАРОГА"

*ПРА "НАШАНІЎСКУЮ" ДЫСКУСІЮ 1913 ГОДА І ЯЕ АЎТАРАЎ*

"Нашаніўскую" літаратурную плынь, якая значна пашырыла і ўзбагаціла беларускае мастацтва пачатку XX ст., доўгі час вызначалі матывы сацыяльнай неўладкаванасці, трагічнага лёсу, адзіноты, палітычнага беспрасвецця.

Але "нашаніўства" ў гісторыі беларускай літаратуры — гэта не толькі час мастакоўскіх журбы і расчараванняў, нараканняў на долю і жыццё. Адраджэнне беларускага мастацкага слова адбывалася і праз адстойванне агульнаэстэтычных крытэрыяў прыгажосці і асваенне **узвышэнскіх** прынцыпаў літаратуры. У "Нашай Ніве" распрацоўвалася ідэя **духоўнасці** мастацкай творчасці, з якой заканамерна паўстаў пошук "новай дарогі" — без "плачу" і суму.

Адметную назву — "Куды ісці" — меў артыкул І.М-скага ("Наша Ніва", 1912, N 2), якім і распачыналася "капанне новага рэчышча". "З нацыянальнага боку гледзячы на духоўныя патрэбы народа, — пісаў І.М-скі, — перш-наперш высоўваецца справа ч ы с т а с ц і беларускай д у ш ы, бо толькі яна адным адна найбольш цэннае багацце, бо з яе і пачынаецца наша адраджэнне. Нам, як народу абяздоленаму, чыстая душа — гэта нялічаны скарб, гэта тая крыніца, з каторай плывуць усё новыя ды новыя сілы, што не дазваляюць памерці..."

На паэтычнасці народнай душы, з якой і пачыналіся ўзвышэнскія памкненні, акцэнтаваў увагу В.Ластоўскі. "Беларус, — сцвярджаў ён у артыкуле "Купалле", — па прыродзе сваёй пясняр-паэт. Просты народ наш расказвае тысячы дзіўных казак, каторымі адрывае думкі свае ад цяжкага жыцця і пераносіцца ў хмары <...>. Беларус жыве напалавіну толькі жыццём праўдзівым, а напалавіну казкай" ("Наша Ніва", 1912, 31 мая).

Паступова на старонках "Нашай Нівы" выспела ідэя новага мастацкага кірунку. "Каб проста да сваёй мэты ісці, трэба ведаць дарогу", — абвяшчае В.Ластоўскі ў нататцы "Кудой дарога?" І дарога гэтая — парнаская, новаўзвышэнская — будзе ахарактарызавана ў славутай "нашаніўскай" дыскусіі 1913 г.

Распачаў яе артыкул Юркі Верашчакі (псеўданім В.Ластоўскага) "Сплачвайце доўг". Раскрытыкаваўшы шэрую аднабаковасць паэтычнага адлюстравання свету беларускімі "парнаснікамі", В.Ластоўскі прапанаваў перайсці да адухаўлення ў мастацкіх вобразах фенаменальнай прыгажосці роднага краю, вучыцца бачыць і разумець яго бессмяротную красу. Не адмаўляючы і"сацыяльнага" падыходу ў літаратуры, В.Ластоўскі паспрабаваў своечасова выкрыць сумную зацыкленасць на ім ці не ўсіх беларускіх творцаў.

У беларускай крытыцы ён адзін з першых паставіў пытанне красы як найвышэйшага крытэрыю паэтычнага мастацтва. "Паэт, — пісаў у артыкуле В.Ластоўскі "Сплачвайце доўг", — павінен быць вучыцелем і прарокам свайго народа, павінен быць суддзёй і цветам душы яго, павінен **выяўляць красу** (вылучана мной. — **А.П.**) свайго народа і краю..." Больш таго, В.Ластоўскі заклікаў беларускіх "парнаснікаў" да духоўнага ўзвышэння, калі сцвярджаў: "Я прывык глядзець на паэта як на памазаніка Божага, як на прарока <...>. <...> вы, каторыя пачуваецеся на сілах даць красу, даць мысль, **падымаць** і весці **душы** (вылучана мной. — **А.П.**), чаму не выпаўняеце свайго пасланніцтва <...>?"

Калі вядзецца гаворка пра "нашаніўскую" дыскусію 1913 г., найчасцей разам з артыкулам "Сплачвайце доўг" аналізуюцца яшчэ два на яго адказы: "Чаму плача песня наша?" Аднаго з "парнаснікаў" і "Яшчэ аб сплачванні доўгу" Л.Гмырака. Думаецца, "нашаніўскі" дыскусійны "дыяпазон" неабходна значна пашырыць — найперш артыкуламі В.Ластоўскага "Наша старая слава" і "Да ўбогіх духам", што з'явіліся на старонках "Нашай Нівы" 19 ліпеня (перад "Адказам..." Аднаго з "парнаснікаў"). Названыя публікацыі працягваюць і пашыраюць думкі В.Ластоўскага аб неабходнасці шукання беларускай літаратурай новага шляху, аб наспелых зменах у светапоглядзе нашых творцаў. "У вайне мечамі мы пазначылі народны жывот свой магіламі-курганамі (можна чытаць: "наплакаліся ўжо"), але ў вайне мысляй мы павінны пазначыць памятнікі мыслі і сэрца — **і гэта наша дарога** нам ад прыроды прызначаная, — выказваўся В.Ластоўскі (артыкул пазначаны крыптонімам В.), горача заклікаючы: — Выходзьце ж, сяўцы мыслі, уставайце, прарокі! Хай наша старая слава народавешчуна ўтрымаецца за намі **ў новай форме!** (вылучэнні мае. — **А.П.**)" ("Наша Ніва", 1913, 19 ліпеня).

У артыкуле "Да ўбогіх духам", напісаным у форме біблейскай прытчы, В.Ластоўскі звярнуўся ўжо да ўсёй беларускай інтэлігенцыі і, вобразна асудзіўшы іхнюю "слепату", прасіў — зноў і зноў! — бачыць не толькі бруд і нястачы матэрыяльныя, заклікаў найперш да **чысціні духоўнай**: "Вы, навучаныя ў пісьме, маглі б быць светачамі свайго народа, а сталіся лютымі ваўкамі з аўчарні. <...> Шчаслівыя ўбогія духам, каторыя **не бачаць свайго ўбожаства**..."

Па-новаму трэба глядзець і на "Адказ Юрку Верашчаку" "Чаму плача песня наша?" Аднаго з "парнаснікаў", які зусім не аспрэчваў выклады В.Ластоўскага, а толькі датлумачваў іх, шукаў прычыны, "чаму плача песня?" (пра гэта слушна напісана ў артыкуле "Апалогія прыгажосці" Л.Тарасюк ("Нёман", 1995, N 5).

Хто ж быў Адным з "парнаснікаў"? Па традыцыі ім прынята лічыць Янку Купалу. Першым назваў аўтарам артыкула "Чаму плача песня наша?" Купалу В.Дзяржынскі — у працы "Янка Купала ў крытыцы нашаніўскіх сучаснікаў" ("Полымя", 1927, N 8). "Падумаць, што Купала не быў знаёмы з прысвечанай яго творчасці публікацыяй, змешчанай у салідным літаратурным часопісе, дзе сам ён друкаваўся, наўрад ці было б разумна", — адзначае Л.Тарасюк у артыкуле "Апалогія прыгажосці". Але ж гіпатэтычна сцвярджаць так — можна. Ды і прачытаўшы артыкул В.Дзяржынскага і "не пагадзіўшыся" з ім наконт прыпісанага твора (што рабілася ў невялікай зносці), Я.Купала мог запярэчыць, толькі пярэчанне гэта ў друк не трапіла і да нас не дайшло...

Даводзілася чуць ад літаратуразнаўцаў думку аб тым, што Я.Купала **не мог паспець** атрымаць у лагойскіх Акопах "Нашу Ніву" і даслаць адказ у Вільню, у рэдакцыю. "Наша Ніва" на той час выходзіла з прыкладным інтэрвалам раз у тыдзень. Артыкул "Чаму плача песня наша?" стаяў на першай абачыне, у падбор і ў сярэдзіне, — значыць, тэкст яго ўжо быў перад пачаткам набору газеты. А яшчэ трэба "адкінуць" час на прачытанне артыкула і магчымае рэдагаванне. Ды і час на яго напісанне і перасылку (ці перадачу "аказіяй")... Ці хапіла б на гэта 20 сутак (5 ліпеня надрукаваны "Сплачвайце доўг", а "Адказ..." — 21-га)? Можна запэўніць адназначна: "Так!" Змог жа з'явіцца ў "Нашай Ніве" за 5 ліпеня 1913 года верш Я.Купалы "Не шукай", напісаны 21 чэрвеня (месца і час стварэння верша — "Акопы. 21/Y1 — 13" — пазначаліся пад творам), — праз 14 сутак пасля яго напісання!

Калі Я.Купала ўзяўся за артыкул "Чаму

ЭСЭ

# ТРЫ СОНЦЫ

***Майстэрства пісьменніка было і застанецца таямніцай, існаванне якой чытач не заўважае нават у радасныя моманты, калі зведвае эстэтычнае ўзрушэнне. Тым не менш яна вабіць і хвалюе кожнага, хто хоча спазнаць высокі сэнс мастацтва.***

***Давайце пачытаем некаторыя апавяданні Івана Пташнікава (Збор твораў, т.1, Мн.,"Маст. літ.", 1990), дзе мастацкія асаблівасці і складаюць таямніцу, што ў рэшце рэшт вылучае той або іншы твор у шэрагу іншых.***

### *1. ДЭТАЛЬ*

Алёшка спяшаецца. Яму трэба хутчэй аднесці на пошту ў Крайск пісьмо, якое маці, знясіленая і хворая, адпісала на фронт бацьку. Ён, як паведамляў у апошнім пісьме дахаты, зараз пад Гроднам, у трафейнай роце, дзе падбірае тое, што ў паніцы кідаюць фашысты, уцякаючы з нашай зямлі.

Дарогу Алёшка выбірае напрасткі, каб хутчэй даімчаць на пошту. Так ён думае паскорыць дастаўку пісьма бацьку.

Здаецца, шмат што ў апавяданні "Алёшка" спрыяе галоўнаму герою — вясковаму хлопчыку. Своеасаблівы спадарожнік яго — сонца. Як жывая істота, яно — побач, на нізкім вячэрнім небасхіле. Ужо садзіцца. Чырвоны колер палосамі лёг на лініі гарызонту.

Колер сонца ў апавяданні стварае псіхалагічную настраёвасць. Адчуваецца, што чырвань, якая ападае за гарызонт, нясе з сабой нядобры знак. Тым больш, што наперадзе ноч.

Алёшка ўжо адолеў частку дарогі. Пошта стала бліжэй. Зноў на гарызонце сонца. Яно паволі садзіцца за небасхіл. Быццам нехаця развітваецца з Алёшкам. Чырвань, што стала больш цьмянай, па-ранейшаму трывожыць. Нейкае гнятлівае прадчуванне асядае на дно душы. Што ж будзе?

Для пісьменніка вобраз сонца ў апавяданні — не аздоба да сюжэтных ходаў. На яго кладзецца псіхалагічная нагрузка ў рэалізацыі задумы. Гэта — мастацкая дэталь. Праз яе чытач успрымае героя, праз яе бачыць многае, што адбываецца ў мастацкай прасторы. Інакш мы проста не заўважылі б яго ў апавяданні. Як не прыкмячаем у звычайнай абстаноўцы, калі ідзём на работу або спяшаемся на спатканне з каханымі...

Загінуў Алёшка гэтак нечакана і недарэчна, бы птушаня ў час узлёту ў блакіт, — і сонца схавалася зусім за небасхіл. Там, дзе яно села, стухалі цьмяныя палосы. Адразу пацямнела ў наваколлі.

Інакшай развязкі, вядома, не магло быць. І не толькі таму, што сонца натуральна зайшло за небасхіл. І не толькі таму, што так хацеў пісьменнік. Інакшы зыход супярэчыў бы мастацкай праўдзе. Яна ж высноўваецца не толькі творчай фантазіяй. Яна і ў логіцы і структуры твора, яго мастацкіх адметнасцях, якія вымагаюць, каб дзеянні героя абумоўліваліся залежнасцю ад канкрэтнай сітуацыі, што стварае аўтар.

У апавяданні "Алёшка" вобраз сонца — скразная мастацкая дэталь. Пры пэўных сюжэтных паваротах яна паўтараецца. Тым самым чытач мае магчымасць зноў і зноў — у моманты, калі завязваюцца псіхалагічныя вузельчыкі — наблізіць да нас героя, зазірнуць у яго душэўныя перажыванні, лепш успрыняць яго турботу пра пісьмо да бацькі.

Вобраз сонца ў апавяданні, стаўшы скразной мастацкай дэталлю, многае раскрыў чытачу. Яна і абвастрыла, і пашырыла наш зрок, і адначасова наблізіла да нас Алёшку. І мы лепш зразумелі яго трывогі, і з большым жалем наша сэрца прыняло такую нічым не апраўданую смерць.

## З АДКРЫТАЙ ДУШОЮ

"Я адкрываю вам душу" — так называецца першы паэтычны зборнік Валянціны Гіруць-Русакевіч, што стаў лістападаўскай кнігай мінулага года ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". Паэтэса родам з вёскі Міхайлоўшчына Ашмянскага раёна, у 1975 годзе скончыла факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта Цяпер працуе ў рэдакцыі валожынскай раённай газеты "Працоўная слава". Дагэтуль з вершамі выступала ў рэспубліканскіх газетах, друкавалася ў калектыўным зборніку "Універсітэт паэтычны", у часопісе "Полымя". Для творчай манеры В. Гіруць-Русакевіч характэрны той давер, на які здатна толькі натура адкрытая і шчырая. А менавіта такой і бачыцца лірычная гераіня паэтэсы.

Каб з'явілася першая ластаўка В. Гіруць-Русакевіч парупілася не толькі рэдакцыя часопіса "Маладосць". Дапамогу ў выданні кнігі аказала дзяржаўнае прадпрыемства па выпуску дарожных знакаў "Крыніца" і асабіста Аляксандр Кучынскі.

## "БЕЛЫХ ПЛЯМ" БУДЗЕ МЕНШ

Гэтай высакароднай мэце падначалены шэраг публікацый апошняга, шостага за мінулы год нумара часопіса "Тэатральная творчасць". У прыватнасці, дзякуючы У. Міхнюку можна пазнаёміцца з падборкай "Фларыян Ждановіч: матэрыялы для біяграфіі". Дырэктар Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь В. Селяменеў і намеснік дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы В. Скалабан прапануюць "Тры лісты Усевалада Фальскага". Паводле архіўных дакументаў Р. Платонаў узнаўляе акалічнасці, звязаныя з забаронай спектакля па п'есе Я. Купалы "Тутэйшыя" — "Па прычыне непрыгоднага зместу з пастаноўкі зняць...".

Адкрываецца ж нумар п'есай Я. Міклашэўскага "Натуршчыца", або Прэзентацыя відэатэатра". Друкуюцца артыкулы Г. Куляшовай "У кантэксце мінулага і сённяшняга. Беларускае опернае мастацтва", "Трыумф Рыда Таліпава" Т. Гаробчанкі, "Танцавальная пластыка" В. Чудайкінай, "Віцебск тэатральны" І. Ліснеўскага, "Трэба жыць..." В. Грыбайлы, "Свята, якому жыць у стагоддзях" М. Макарцова, "Адысея адной літары" А. Жураўскага і іншыя матэрыялы.

## ЯКАЯ ЯНА, ФАРТЭПІЯННАЯ ШКОЛА?

На гэтае пытанне і збіраецца даць адказ часопіс "Мастацтва". Як вядома, беларуская фартэпіянная школа ўзнікла ў цеснай сувязі з традыцыямі маскоўскай і пецярбургскай фартэпіянных школ і ля вытокаў яе стаялі многія знакамітыя выканаўцы. Пра асобных з іх — М. Бергера, Р. Шаршэўскага, І. Цвятаеву — можна даведацца з матэрыялаў Н. Ксёнц "Найвялікшае шчасце нашага жыцця...", І. В'югінай "Яго любілі вучні...", гутаркі Н. Ксёнц з дацэнтам кафедры канцэртмайстарскага майстэрства Беларускай акадэміі музыкі А. Васільчанка "Яе галоўным захапленнем была праца...", змешчаных у дванаццатым нумары часопіса за мінулы год.

Увазе чытача прапануюцца таксама артыкулы М. Крывашэева "Вытокі беларускага кантрабаснага мастацтва", Д. Падбярэзскага "Фестываль са старой шафы".

У сшытку "Народнае мастацтва" аб'яднаны такія публікацыі, як "Вынесем смецце з роднае хаты" Г. Багданавай, "Некалькі адкрыццяў аднаго фестывалю" М. Раманюка, "Ганчарства зноў робіцца папулярным" Я. Сахуты, "Ганчары — людзі дасціпныя" С. Саўрыцкага, "Пётра Карнач: мастак, спявак, навуковец" Р. Шауры, "Польскія адкрыцці" В. Лабачэўскай.

А. Гесь і У. Ляхоўскі прасочваюць жыццёвы і творчы шлях У. Тэраўскага ("Калі песня жыве беларуса, будзе жыць беларускі народ!"). М. Яніцкая асэнсоўвае набыткі В. Церашчатавай — "Светлы ўспамін пра светлую постаць".

Аматараў тэатра зацікавяць артыкулы "Застрэліцца з-за кахання" Т. Арловай і "Медыяутопіі Зіновія Марголіна" У. Мальцава.

Сярод іншых матэрыялаў — публіцыстычны роздум П. Васілеўскага "На мяжы, на ростанях, на крыжы...", артыкулы "Святло — гэта жыццё" В. Буйвала, "Экзістэнцыяльнае перажыванне колеру" В. Хлебнікавай, "Цудоўны новы свет: перспектывы камп'ютэрнай рэвалюцыі" Ю. Барысевіча.

Леанід ГАЛУБОВІЧ



# БЕЗ ПАКАЯННЯ І МАЛІТВЫ

### Вырак

*...на мяжы ў полі дзічка стаіць...*
*Не ведае — як ад ветру схавацца.*
*Направа хіснецца — плады губляе,*
*Налева — ліст асыпаецца,*
*Спіной павернецца — галлё ломіцца...*
*Як ні стань — вецер насупраць.*

*Птушкі гнёздаў на ёй не ладзяць.*
*Ніхто дзічкамі не ласуецца.*

*Толькі вецер за ёй аддany —*
*Хоча вырваць яе з няволі,*
*З утравелай зямлі памежнай...*

*А яна й схавацца не можа,*
*Каб не быць у яго наложніцай...*

●

*...крышыцца й ломіцца*
*Стрыжань алоўка*
*На слове Айчына...*

*Мабыць, усё-такі пераціскаю...*

### Жніўны час

*...зжаўцелі белыя наліўы,*
*Ссінеў за плотам чарнасліў,*
*Засох ля бацькавай магілы*
*Асот — і голавы схіліў...*

*Царкву струхлелую прыбралі,*
*Бы свечку згаслую, і там*
*Так-сяк капліцу збудавалі,*
*Які ні ёсць, а — Божы храм...*

*Адтуль — зняможаны, забыты —*
*Іду — не свой і не чужы —*
*Без пакаяння і малітвы*
*Паўз надмагільныя крыжы...*

●

*О. ідэолагі — да масці масць! —*
*Яны* ўбіваюць у галовы,
*Што нам без іх з калень не ўстаць,*
*Што трэба верыць ім на словы —*
*Каб* у галовы не ўбіваць...

### Эратычны пожар з акна

*То дрэва падобнае на жанчыну*
*То жанчына падобная на дрэва*

*Майму ўяўленню няма спачыну*

*Майму жаданню жанчына трэба*
*А дрэва падобнае на жанчыну*

### Чаканне першага снегу

*...ні вецер, ні імжака, ні мароз —*
*А вышняя прадвызначанасць змены...*
*Так п'яны йдзе праз вуліцу, наўскос,*
*Зачараваны* песнямі сірэны...

*Трывае недаўменная пара —*
*Як тры званкі ў твае глухія дзверы,*
*І перад форткай танец снегіра*
*Не ўскалыхне зацягнутай парцьеры...*

*А ўпадзе ён з нябёс па-за ваччу*
*Нячутна, як з начных плячэй сарочка...*
*Я так убачыць гэты снег хачу,*
*Прыпаўшы вокам да дзвярнога вочка...*

### На развітанне з зімой 1996 года

*...зіма ссівела, а не йдзе на скон,*
*Траскучы голас і маразм старэчы*
*Ніяк не адагрэе за вакном*
*Кватэры,*
*дзе якраз бракуе печы...*

*Я сам тут, акалелы, на тахце*
*Ліжу лядзяш квадратнага блакіту —*
*І флора аклахомская расце*
*З экрана ў рот без візы і транзіту...*

*Гляджу на ўзор з'інелага вакна —*
*Вышукваю на шыбах штрых Шагала,*
*І хочацца не чаю, а — віна,*
*Не з кубка, а — з крыштальнага бакала...*

*Такая вось зіма напрыканцы*
*Стагоддзя, што падперла стынню неба...*
*Кладзешся спаць і думаеш — капцы!*
*...аднак — прачнешся...*
*Хоць — каму ты трэба...*

●

С. А. і А. С.

*...паэт — ізгой...*
*І з Пушкіна смяяліся,*
*З Віёна, і з Верлена, і з Рэмбо...*
*Пад ходам часу норавы хісталіся*
*(Хаця ні кроплі не праліў Лі Бо).*

*А Пушкін пісталет трымаў,*
*і зрэшты,*
*Віён — забойца,*
*ну, а тыя — ўдвух...*
*Калі б паэзія была бязгрэшнай,*
*То чым карміўся б сатанінскі дух,*
*Каб тую моц узняць на тонкіх крылцах.*

*Люструючы трызненні, бы ў трумо:*
Вакханак *Пушкіна,*
*віёнавых* юрліўцаў,
Ваўкоў *Верлена,*
карабель *Рэмбо...*

*Такім гуртом куды ўжо ні плылі мы —*
*Чакалі нас распуста і мана...*
*Ды во й цяпер — не адплылі і мілі,*
*А ў труме верхаводзіць Сатана...*

*І так — заўжды...*
*Знайсці якую рату,*
*І як здабыць з нябыту ідэал!?*
*Шапнуць сястры,*
*даверыць слова брату —*
*Схаваць душу, як скрыпку ў футарал...*

●

*Мне ўжо не страшны ні турма,*
*Ні мор, ні холад...*
*А страшна мне пражыць дарма,*
*Сарваўшы голас,*

*Не ўчуўшы водгуку здаля,*
*Тым болей, зблізу —*
*Чакаць, што чорная зямля*
*Пакліча знізу...*

*...люблю, люблю я* васількі,
Жалейку, лапці...
*Ды не жадаў бы,* дзяцюкі,
*Жыццё пакласці*

*Ні пад* канём, *ні пад* арлом
*За чарку з хлебам...*
*Хай лепш праз чэрапа пралом*
*Свіціцца неба!..*

*Я сам не ведаю — што там*
*Жыве-пусцее,*
*Не перадаў таго Адам,*
*Ні сказ Майсея...*

*Душа мая, бы сірата,*
*Не вінавата,*
*Што ў вечным свеце пустата*
*Ёй не занята.*

*Туды Гасподзь яе вядзе*
*Не для пастою,*
*А каб паднебнай пустаце*
*Не быць пустою...*

●

*...прахам стану я ўвесь,*
*Ды, магчыма, не згіну, —*
*Перасіліўшы смерць,*
*Перакінуся ў гліну...*
*Бог са мной...*
*Чалавек —*
*Глінабытная з'ява.*
*І кароткі наш век.*
*Ну, а дух няхай ззяе*
*Не выявай жыцця,*
*А задумаю вечнай,*
*Льецца хай з небыцця*
*Зорнай завяззю млечнай*
*Ад нябесных асноў*
*Да зямнога зачыну,*
*Ажыўляючы зноў*
*Тую самую гліну...*

Анатоль КІРВЕЛЬ



# СУЗОР'І

## З НОВАЙ КНІГІ

**I**

●

*Так сумна ў маёй хаце — без цябе!*
*Нідзе няма жаданага прытулку.*
*Спыні дарэмны — ад кахання — бег:*
*Мне без цябе — і холадна, і мулка.*

●

*Хто падказаў табе — услед за мной ісці?*
*Няўжо, скажы, за шчасце тое маеш,*
*Калі на сцежках — на маіх! — штодня*
*Слядочкі ног сваіх таемна пакідаеш?*

●

*Аддаць па абавязку — нецікава:*
*Маркота загрызе ў тузе маўклівай.*
*Аддаць тады, як ведаеш, што прымуць*
*Усё-усё — што ёсць! — то цуд і дзіва!*

●

*Не верыць байкам розум вымагае:*
*Расчараванняў менш. І меней гора.*
*Ды байка, што ты мне ціхенька баіш,—*
*Такая слаўная,*
*такая непаўторная...*

●

*Імклівы рух — загадка і здагадка*
*Пра тое, што таемным мусіць звацца.*
*Так лёгка ўсё разгадваць — бо чужое!*
*А пра тваё — ані не здагадацца!*

●

*Я рук тваіх — ля сэрца — шчэ не чуў.*
*І губ тваіх — каля сваіх — таксама.*
*А як пачую? І пачуеш ты?*
*Не здарыцца,*
*Што шчасце згубім?*
*Самі?*

●

*Я слоў тваіх таемны сэнс лаўлю:*
*Чакаю ўсё — калі з глыбінь прарвецца*
*Прызнанне, што і ты мяне...*
*Спаймаў!*
*Ці праўда?*
*Мо здалося?..*
*Ці здаецца?..*

●

*Няхай жыве святло тваіх вачэй!*
*Няхай мы жыцьмем так, як і дагэтуль!*
*Жанчыне ж трэба — мора пачуцця,*
*І толькі кропелька адзіная — Паэту!*

**II**

●

*Ты ў снах маіх — я не скажу — якая.*
*Ты не палохайся: нічогенька такога...*
*Мне ясна сонца свеціць сярод ночы,*
*А днём — дык і сапраўднага замнога!*

●

*Без крыўды — у каханні аніяк,*
*Не так зірнуў, ды мо — і не на тую!*
*Калі ж і ты зірнеш не на таго, —*
*Дальбог, заб'ю! На месцы! Не жартую!*

●

*Не прысвячу табе ніводзін верш.*
*Бо там — не ты; бо там — зусім другая:*
*Чароўная да немачы! Святая!*
*А ты — жыцця мне не даеш! Павер!*

**III**

●

*Сузор'і — як жаночая душа:*
*Відаць усё, а зразумець — не можаш.*
*Аброць на шыю зоркам!*
*Мо тады*
*Ты шчасце нейкім чынам і стрыножыш.*

Людміла АНДЗІЛЕЎКА

# АБРАЗКІ



## ДАЙ, БРАТОК, ЗАКУРЫЦЬ...

Дзякуй Богу, прадаў хату... Як уздумаю, колькі нажыліўся з ёй — гара з плеч!

Што ты, зіма неўзабаве — печы патрэскаліся, абсыпаліся, каторы год да паўдня дым глытаеш, пакуль вытапіш... Дах — ліло руччом!

І ож дурніло-о! Было наскладана грошай якраз на шыфер, не-е! Няхай паляжаць, дарагавата... Цьфу!!!

Ідзі, купі за іх паўлітра...

Нічога, маладыя хазяевы, паправяць, агледзяць. Добра, што прадаў. Як толькі купілі людцы?

Не, хата няблагая! Не пакрыўдуюць. Сам вокны выводзіў, каб усе на сонца. Прачнешся — ясна, увесь дзень свеціць і нанач да сну праводзіць.

Адзін ставіў — старую, бацькаву перасыпаў, але трысцен мой, столь, падлога, вокны — усё, як ёсць, маё, свежае.

І як з месцам удалося! Вады ў студні — круглы год, а ў падполе — няма. Другія гаруюць з гэтым: вясною сіляюць вёдрамі — гнілую бульбу выцягваюць, — у мяне суха. Угадаў...

Сад, канешне, састарэў. Вішанькі памяняць трэба было б. Э-э-э, не паспеў яблыні маладыя прышчапіць — хай бы людзям на радасць было, можа, новы хазяін да гэтай справы не цягнецца. Сабраўся прыстроек рабіць — выкарчуе мае грушы, а здалёк вёз, ледзь прыжыліся. Ды — яму відней...

У гэту хату Таццяну сваю прывёў. Не скажу, што жылі душа ў душу — усяк было. Толькі назад паглядзіш — няма ранейшага чалавека... Не было... Адправіў яе таксама з гэтай хаты.

Пашанцавала ёй — не дажыла да сённяшняга дня.

Нічога, можа, дасць Бог, і я скора туды, да яе...

## "НЕКРАЛОГ"

Хавалі Сцёпку. Вяртаўся дамоў, як штодзён глынуўшы, пераходзіў пуці і заваліўся ля бярэзіны. Знайшоўшы, падумалі — замерз, бо хоць восень стаяла, а маразы зямлю ўкавалі, потым дазналіся — сэрца хворае не вытрымала. Не дацягнуў і да трыццаці шасці, можа, добра, што не меў жонкі з дзецьмі. Праўда, жыў з развядзёнкай, але нядаўна сышліся — дужа не забядуе.

Дзяўчынка, што сядзела ля пахілага плота на бервяне, якое пасля буры Сцёпка прыцягнуў на дровы, а парэзаць так і не дабраўся, была яго пляменніцай, Галінай дачкой. Дзівіла б яе адсутнасць на гэтым месцы — мяркуйце самі, чым было для Марусі паўпустое бервяно: калі яшчэ не хадзіла ў школу, а "сценюгалася па заўголлю", як казала баба Маня, бо на садок маці грошы жалела, на ім гуляла з лялькай і пякла хлябок з гліны; калі ў хату неяк было трапіць, бо дарослыя знеслі ключ, забыўшыся за гарэлкай пра Марусю, сядзела тут, застыўшы ў адной позе і, адключыўшыся ад рэчаіснасці, блукала ў толькі ёй знаёмым свеце; на гэтым бервяне пераждыдала "сямейныя разборкі" — тады яе бачылі да цёмнага. Сёння тут сядзець было ніякавата — людзей ішло ды ішло, малазнаёмых, чужых — яны пыталіся аб нечым у Марусі, а ёй не хацелася гаварыць. Давялося стаяць у хаце і слухаць шэпты і гаворкі...

"Старая трымалася, а цяпер і яна не жылец..."

"Глянь, прыйшла-ткі Тамара, адпусцілася, ці, можа, каб паглядзелі, што і без яго не прапала?"

"Бацюшка адпяваць будзе Забалоцкі".

"Ці не той, што на вялікадня з прычасця пахмяляўся?"

"Той, той. Якое пахмелле! Ужо не ўсяночнай выбягаў за іканастас перакінуць чарку, там і закусваў. А як памочнікі сталі яйкі свянціць, так і сербануў з чашы тут жа, неадыдзясь, у царскіх варотах".

"Галя з "удавой"... не ўцярпелі..."

Яны сядзелі, абхапіўшыся за шыі, спачувалі адна адной. Галя так расчулілася — стала біць рука аб руку, дакляруючы хату. Адазвала старую Марыю. "Матка — яшчык гарэлкі — апішы хату на Нонку!" Ці забылася, сельсавет выдзеліў два на пахаванне і самагонкі яшчэ поўныя слоікі — наўрад гэта абяцанка ўразіць старую, калі што дні праз тры?

Марыя, хоць і добра "кранутая", моўчкі кінула касым вокам на дачку, сцяміўшы, нягледзячы на гора і хмель, што тая вярзе. Жарт — хату апісаць! На каго, на прыблуду?! Месяца тут не жыла, ад няпершага мужыка ўцёкшы. Свая ўнучка, як дзічка ў чыстым полі, ані бацькі, ані маткі. Бывала, жаліячыся, Марыя пакруціць пальцам ля скроні: "Адзін-во, другі-во!" — шчоўкне па глотцы.

Папівала сама часценька, ды вярталася да галавы: есці наварыць, у хаце прыбярэ — усё ж прытулак малой. Дачка піла — не прасыхала. Некалі прыгожанькая, жвавенькая, цяпер сівая і, лічы, без зубоў, выглядае адных гадоў з маткай, а была маладзей за нябожчыка. Гадоў сем, як не адыходзіла ад хмелю. Маруся другой яе і не памятавала.

Сяброўкі старой "набраліся" з раніцы, і ўжо хто спаў, хто галасіў на прыход новага чалавека ў хату, але ля печы было каму круціцца. Люду, да дармавой гарэлкі ахвочага, заўсёды хапала. Той, хто не хадзіў у сваяках ці суседзях, рупна завіхаўся, каб падхапіць кветкі, ці вянок — "заняцца справай", сумленна адрабіць чарку. У сенцах, яшчэ да вынасу труны, "грэлі" хлопцаў, якія капалі дол. Яны падрабязна і заклапочана распавядалі, як было неўкапацца, што ні ломам, ні лапатай, але зрабілі ад душы.

Маруся ўпершыню блізка бачыла мерцвяка, яе браў страх — не магла заснуць ноччу. Хацелася прылегчы — каб было дзе...

Людзей паменела толькі пасля жалобнага стала. Пасля засталося некалькі сваякоў і прыяцеляў. Яны наладзілі песню, апраўдаўшы Сцёпкавай вясёласцю. Што праўда — то праўда! Жартаў, прыпевак знаў — роўні няма!

— Маруся, нясі трохлітровік з кладоўкі!

Дзяўчынка, дагэтуль нікім не заўважаная, сядзела на ложку, рукі, як вяровачкі, ляжалі на каленцах, вочы, адвыклыя ад слёз, выглядалі нешта нябачнае.

— Маруся, бягом!

Яна як цень прашмыгнула міма застолля, прыпынілася на хвілінку ля кладоўкі і пайшла з хаты...

## ЗАЎЧАСНАЯ СМЕРЦЬ ЛАБАНКА

Лабанок у Мінск паехаў запчастак да трактара нагледзець. Мо хто і пасмяецца, "Па мехдвары хадзіць ды ў сталіцу па запчасткі ездзіць"! Толькі ў Лабанка, па-першае, такі закон — жыць са свайго, а па-другое, гэты трактар яму далі за шматгадовую, добрасумленную працу ў сельскай гаспадарцы. І не тады, калі гэтых трактароў па звалках можна было сабраць, а цяпер, як ім цану пазналі; так што трактар яму ўтрая даражэйшы (не па грашах, па сэрцу) і запчасткі да яго красці, выходзіць, як абраза.

Настрой быў адмысловы! Цягнік па такім раскладзе хадзіў, што Лабанок скрозь паспяваў: і справу зрабіць і горад паглядзець. І нават сваю мару здзейсніць... Аб ёй, барані бог, не прызнаўся б нікому. З яго і так кпяць — надта ціхі, паслухмяны. "Халуй ты, Лабанок! Колькі цябе не жмі — усё сцерпіш. Пры ўсіх начальніках перадавік!" А што начальства, калі чалавек усё спраўна робіць? Ціхі, дык гэта прыроднае, усе Лабанкі — не задзірыстыя.

Асабліва цяпер хлопцы асмялелі, калі што — бастуюць, спрачаюцца. Яны ўсё праўду кажуць: і як старшыня "Волгу" купляў, і куды паліва дзяецца, і што пры Саветах нічога не нажылі. Ён, Лабанок, таксама ні шыша не нажыў, ды пры чым жа зямля, яе ж араць трэба.

Шукаў ён прычыну ў сабе, чаму такі ўдаўся (разважаць любіў — хлебам не кармі), і знайшоў... Тут — я вам кажу! У такі момант здаецца яму, што за ўсіх разумнейшы, і проста не здольны слабейшага розумам пакрыўдзіць. Без крыўды, талкова, дакладным словам выказаць думкі не мог, а крычаць бязглуздзіцу, як астатнія, саромеўся. Інакшай прычыны не прыдумалася.

Справіўся Лабанок да поўдня, прайшоўся па праспекце — добра людзі апранаюцца, не тое, што ў вёсцы. Глянуў на сябе ў шкло вітрыны: туфлі — рудыя, штаны — чорныя, пінжак — сіні. Адно слова — "хабел", як у іх кажуць, нават адчуваць сябе стаў неяк нязграбна. Але і гараджане невясёлыя — снуюць, як мурашкі, нешта цягнуць, некалі ім спыніцца, паветра глынуць, на неба вокам акінуць. Горад — як адзін вялікі базар: гудзе, мітусіцца. За гэты час Лабанок прыстаў, што поле ўзараўшы. Дома б выйшаў на ганак, абцёр бы яблык, прысеў бы на прыступкі — само сабой стому адцягнула б, а тут яшчэ разбярыся, якім куды транспартам трапіць.

Рэшткі часу якраз хапала на ажыццяўленне задумкі, і Лабанок вырашыў перахапіць чаго на скорую руку. На Камароўцы ён стаў у доўгую чаргу за смажнямі і праз нейкі час апынуўся ля чана, з якога валіла пара. Лабанок палез ужо ў кішэню, як аднекуль падышоў хлапец цельпукаватага выгляду ў спартыўным касцюме і, не мовіўшы ні слова, падаў прадаўшчыцы грошы. Лабанок хоць і спяшаўся, але па старой звычцы сабраўся змоўчаць — "свайго розуму нікому не ўложыш...", ды жанчына, якая разлічвалася перад ім, адвярнулася і так грэбліва глянула на яго, што Лабанку аж зацяло. І такая злосць на сябе ўзяла!

— Стань, хлапец, у чаргу, як усе!

Той спакойна так прыціснуў красоўкай Лабанкову нагу да асфальту:

— Ш-шяс ляжеш, л-лоха!

Калісьці, яшчэ малымі, іх вазілі ў Маскву на ВДНГ. Хлапцам даражэй за ўсё было робатаў паглядзець. Ды Лабанок якраз захварэў і застаўся дома. У гарачцы трызнілася яму, што і ён на выставе, ды сумеў таго робата ўключыць. Рукатворны, чалавекападобны нелюдзь пайшоў на яго, аслупянелага, са здранцвелымі нагамі. Нічога робат той на рабіў, толькі сунуўся, але ў ім не хапала нечага такога важнага, неабходнага, такога... Лабанок не знайшоў слова, каб акрэсліць свае пачуцці Ён зароў немым голасам, ажно прачнуўся...

Цяпер стаяў Лабанок перад дзецюком і адчуваў тое самае, што ў даўнім сне. Сказаць, што забаяўся — не. Гады не тыя, ды і дадумаўся ён адзін раз да таго, што смерці баяцца — няма чаго. Адно збавенне яна ад жыцця. І не таму, што жыццё ўжо такое дрэннае, а таму, што не змог бы чалавек жыць вечна — атупеў бы, ачарсцвеў, нічому б не радаваўся, не гараваў... Не баяўся ён смерці...

Напомніў хлапец яму тое жудаснае аслупяненне тым, што і ў яго вачах таксама нечага не хапала! І яшчэ больш было страшней, што перад ім быў не робат, а, як-ніяк, чалавек. Глядзеў Лабанок у белыя вочы хлапца і холадам яго ахінала — ніякага адгалоску.

— Адыдзіся, малец, — ціха, здаўлена, але надта бясстрашна атрымалася ў яго...

Зверху выразна было відаць, як хлапец са смажнямі сеў у машыну без нумароў, жанчына заспяшалася прэч, а міліцыянер, што стаяў непадалёк, падышоў да шчуплага цела, якое спаўзло ўжо з чана на зямлю, махнуў рукой: "Мафія са сваім разабралася..." і стаў нешта казаць у прыёмнік.

...А Лабанок яшчэ не зразумеў, што смерць не дужа страшная...



Фота В. Майсюка

# ДЗЕ, ЯК НЕ НА СЦЭНЕ?



**"Запіскамі пенсіянера" сустрэў наступ свайго дзевяностагоддзя народны артыст Расіі Мікалай Радзівонаў, адзін з самых заўважных, абазнаных і дасведчаных чыннікаў магілёўскай драматычнай трупы. Спектакль складаюць (мовім загадкава) маналогі — класічныя, сучасныя і аўтарскага, радзівонаўскага паходжання...**

**Мікалай Ільіч на сцэне больш за сорак гадоў. Сыграў больш як сто пяцьдзесят роляў, самых рознахарактарных, самых разнаітых, самых непадобных. Ён пачынаў акцёрам-самадзейнікам у жывой газеце. Ён, як здольны самадзейнік, даводзіў сваё акцёрскае прызванне на сцэне Ленінградскага тэатра Пралеткульта. Ён, як пралеткультавец, зазнаў і рэарганізацыі, і выгнанні, і асабліва доўгай працы ў масоўцы. Выйсце бачылася й было толькі ў вучобе, і малады самадзейнік спакваля, упартасцю і адданасцю сцэне зарабіў права пачуць ад прафесійнікаў тэатра: "Калега!" У 1944 Мікалая Радзівонава ганаравалі званнем заслужанага артыста Карэла-Фінскай ССР. У 1957 — народнага артыста Расіі. У жніўні 1957 Мікалай Радзівонаў апынуўся на магілёўскіх падмостках.**

**На якія выходзіў, дзякуючы сваёй акцёрскай індывідуальнасці, у ролях парткамаўскіх сакратароў, вучоных, іншаземцаў (асабліва ў п'есах савецкіх) і нават аднаго значнага слесара, які "духоўна выпроствaўся пасля палону" (спектакль І. Тарасава "Гэта было ў Магілёве"). Асабліва ярка адбіліся ў тэатральнай памяці магілёўцаў ягоны Булычоў з горкаўскае п'есы, Джэмс Броўзі (паводле А. Кроніна), акадэмік Дронаў ("Усё застаецца людзям" С. Алёшына).**

**Захапленне Мікалая Ільіча ў вольную часіну — здымкі на кінастужку ўсяго, што адбываецца ў тэатры і вакол яго. Так што магілёўскі тэатр з 1960 гадоў мае свой кінаархіў у прыватнай кватэры артыста Радзівонава. Стужкі, праўда, вымагаюць рэстаўравання, але каштоўнасці сваёй праз гэта не губляюць. Спектакль "Запіскі пенсіянера" таксама сфільмаваны. Як сведчанне творчай адданасці і высокапрафесійных запатрабаванняў артыста. А дзе, як не на сцэне, іх спраўджваць?**

**Ж. Л.**

# І КАБ ПАРАЗУМЕННЕ НЕ ПАКІДАЛА

**Запрашэнне папрацаваць у Брэсце Вітаўтас Грыгалюнас атрымаў ад тамтэйшага тэатра лялек; спектакль "Дрэва багоў" паводле Ігара Сідарука ужо паспяхова пракатваецца.**

**Наступнае берасцейскае запрашэнне прыйшло ад тэатра драмы і музыкі. 24 снежня зацікаўленыя і набліжаныя да тэатра гледачы прымалі ад Вітаўтаса спектакль паводле Гаўптмана "Перад заходам сонца", — прымалі, бо ўся мастацкая рада тэатра, якая зазвычай мусіць строга ацаніць кожны сцэнічны крок і ўздых, сама хадзіла і ўсхвалявана дыхала на сцэне. У галоўнай ролі Клаўзена заняты старэйшы майстра Сяргей Еўдашэнка. Як прызнаўся Вітаўтас, працаваць з гэтым адметным акцёрам і рэжысёрам было лёгка, бо паразуменне не пакідала абодвух з хвіліны знаёмства.**

**Вядома, спектакль атрымаўся даўгаваты па часе, бо ў п'есе — пяць актаў, шмат персанажаў. Хоць сяго-таго і скарацілі, але спектакль вымагае працы ўсяго тэатра. І вымаг ужо сцэнаграфічнага рашэння Віктара Лесіна, рупнасці мастачкі па касцюмах Тацяны Карвяковай, арыгінальнай музыкі і апрацовак кампазітара Васіля Кандрасюка. Прэм'ера для шырокай публікі адылася 5 студзеня.**

**Ж. Л.**

# ...ВА ЎСІХ ІПАСТАСЯХ

***Віцебскае адметнае свята — сямідзесяцігоддзе Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа — віравала ды аціхала з 16 па 21 лістапада. Ужо летась, вядома. Вызначылася перадусім адмысловым прадстаўленнем тэатральнае трупы (штовечар яна, трупа, усім складам упрыгожвала сцэну пасля спектакля). Вымагала адцягненага позірку на ўсё, што прадставілі глядацкай увазе. Ён, — і адцягнены, і свежы, і зацікаўлены, і пільны, вылучае самых маладых тэатральных крытыкаў і знаўцаў з творчага аб'яднання "Галёрка" Беларускай акадэміі мастацтваў. Тым больш, што для бальшыні маладых людзей коласаўскі тэатральны юбілей стаўся і знаёмствам, і адкрыццём.***

## ДНІ, ШТО МЕЛІСЯ ЎСКАЛЫХНУЦЬ ВІЦЕБСК

Напэўна, шэсць дзён у коласаўскім тэатры можна назваць фестывалем. Адкрыўся ён прэм'ерай "Жаніцьбы" паводле М. Гогаля. Рашэнне рэжысёра Валерыя Маслюка заключалася ў гратэскавым паказе камічных тыпаў. Аранжавая сукенка Агаф'і Ціханаўны (Т. Скварцова), у банціках, фальбоначках, кветачках, якія дадавалі мажнасці і без таго мажной актрысе, — стыль "Жаніцьбы". Вакол галоўнай гераіні, як чмялі вакол запозненай ружовай кветкі, уюцца, прытанцоўваюць, — падлабуньваюцца жаніхі. Нязграбны тугадум Яешня (Л. Трушко), занадта гаваркі эстэт Анучкін (В. Дашкевіч), надакучлівы сваёй жвавасцю Жавакін (А. Лабанок), сарамлівы ці то пераростак, ці то перастарак Падкалесін (У. Куляшоў). Уладальніцу банцікаў ды фальбоначак ёсць з каго выбіраць. Але пакуль звягала ды капрызіла, атрымала за выборы лапці ды аборы. Без жаніхоў.

Працягам класічнай тэмы сталася прэм'ерная пастаноўка "Дзядзькі Вані" А. Чэхава рэжысёрам Ю. Лізянгевічам. Усё дзеялася вельмі роўна, спакойна, проста закалыхваючы гледача. У атмасферы саладкаватага паўсну зусім не да месца прыйшліся нервовыя марафоны самога рэжысёра-пастаноўшчыка з залы ў фае і назад. Мо гэта адзін з загадкавых спосабаў нагадваць зале пра стан бадзёрасці?!

Рэжысёр М. Пінігін і мастак З. Марголін у спектаклі "Рэцэпт Макропуласа" вынайшлі свой спосаб падтрымкі глядацкае ўвагі, афарміўшы сцэну як своеасаблівую касцюмерную... залу. Велізарныя фракі ад каласнікоў да масніцаў затулілі сабою людзей. Напэўна, пазначаючы час, у які людзі — мурашы, і як мурашы не могуць чаму-небудзь супрацьстаяць. Доктар Макропулас прапанаваў рэцэпт, дзякуючы якому час губляе, страчвае сэнс, спыняецца. Але рызыка такога супынення караецца: ніхто не хоча пакутаваць, як Эмілія Марці (С. Акружная), што спыніла свой час.

Спроба З. Марголіна паказаць глядзельнай зале частку закулісся напаткала параемніцу — спробу мастачкі Тацяны Луцайковіч. У монаспектаклі паводле П. Хакса "Размова ў доме Штайн пра гера фон Гётэ, якога ў гэты час проста няма" (рэжысура В. Маслюка). Мастачка, рыхтуючы заднік для малой сцэны, прапанавала скарыстацца з чарнавых накідаў Гётэ. Крывыя і касыя выгібы, нахіленае крэсла, спрэс спісаны заднік — міні-сродкі, якія спатрэбіліся для пазначэння чарнавой работы. Такая дэкарацыя задала актрысе Л. Антосевай форму пачуццёвай імправізацыі. Цяжкімі сталіся для актрысы гэтыя пачуцці, але як можна зразумець: адрасаваліся яны ўсяго толькі шляхетнаму пацурбалку. Парыковай балванцы. Кавалку дрэва. Уяўнаму партнёру...

Калі ў спектаклі В. Маслюка чарнавік існаваў фонам, то пастаноўка А. Грышкевіча "Жураўлінае пяро" паводле Д. Кінасіта нагадала сметнікавую яміну, грымзолі японскага вар'ята, чарнавую рэпетыцыйную работу. Разнастайныя светлавыя й зрокавыя эфекты, некалькі жораваў-лялек розных сістэм побач з акцёрамі, традыцыйныя масавыя танцы-гульні, зліў японскай, в'етнамскай, беларускай эстэтыкі... Ці не зашмат для аднаго дзіцячага спектакля?

Гасцявалі ў тэатры святочнымі днямі Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы з адносна новым спектаклем В. Раеўскага "Ромул Вялікі" Ф. Дзюрэнмата і Дзяржаўны акадэмічны рускі тэатр імя Горкага з горкаўскім жа "Букеевым і кампаніяй" у пастаноўцы В. Осіпава.

Не абышлося і без палітыкі. Яе адлюстраваў узноўлены В. Маслюком спектакль "Час быка" ("Клеменс") К. Саі. Прынцып пастаноўкі — так званы "падыход на мякніх лапах". Рагі, вуглы, куты рэжысёр абышоў, а праблема мастацкая згубілася ў агульным, масавым сцэнічным страхапсіхозе. Персанажы цэтлікамі не пазначаны, шыльдамі-апавесткамі не абвешаны. Хіба стараста Доўнарас (В. Салаўёў), які атрымаў уладу дзякуючы буйной рагатай жывёліне (Быку), кагосьці здаля нагадвае. Але каго — пэўна, выбачайце, не зразумела.

Спектакль падоўжыла цырымонія ўрачыстага закрыцця фестывалю. "Кветкі ад прэзідэнта рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі", — як было абвешчана. Добрыя словы, падарункі, узнагароды. Медалём Ф. Скарыны ўзнагародзілі адну са старэйшых актрыс тэатра З. Канапельку. Званнем народнага артыста Беларусі ўганаравалі Л. Трушко. Заслужанымі артыстамі зрабіліся А. Лабанок і Г. Шкуратаў. Дух трупы мусілі падтрымаць ганаровыя граматы і грашовыя прэміі. А таксама цёплыя словы кіраўніка трупы і банкет.

Што каго ўскалыхнула — засталося ў набытках ды стратах святочнага тыдня.

**Святлана ПАЗНЯК**

## ПА САКРЭЦЕ (МАКРОПУЛАСА) УСЯМУ СВЕТУ

Грымнуў хор, каб усе зразумелі: адбудзецца нешта грандыёзнае. Адшмаргнулі заслону — і праўда! Ажно тры велічэзныя фракі з-пад каласнікоў! Мастак — З. Марголін! На гэтым грандыёзнасць сумелася і пачалося звыклае дзеянне з размовамі і соўганнем па сцэне. Часам павольная плынь гэтага хаджэння-маўлення як выбухам перапынялася оперный арыяй, і ў якім фанаграмным выкананні! Напрыклад, арыя на выхад галоўнай гераіні — спявачкі Эміліі Марці! Яе ролю выконвае народная артыстка Беларусі Святлана Акружная!

...З гэтага моманту дзеянне мусіла закруціцца вакол загадкавай і нават таямнічай прымадонны. Ёсць і будзе мацавацца адчуванне, што спектакль "Рэцэпт Макропуласа" ставіўся М. Пінігіным для ў дзеля адной актрысы — Святланы Акружной. Яна — прымадонна. Яна — каралева. Усе астатнія іграюць яе. Першы выхад каралевы, перапрашаю, прымадонны — трыумф упэўненай жанчыны. Упэўненай у сабе. Яе рухі і галасавыя інтанацыі адпрацаваныя да аўтаматызму, выдаюць на штучныя. Актрыса ў простым сэнсе слова будуе сваю гераіню. Яе Эмілія Марці на працягу спектакля некалькі разоў непрадказальна мяняецца. Гэта дасягаецца не толькі пераапрананнем, змяняюцца і паводзіны, і пластыка. Яна нібы прымярае на сябе розныя вобразы, то бліскучая свецкая львіца, то капрызлівая прымадонна, то змрочная, таямнічая, ахутаная містычнасцю істота, якая і не належыць да нашага свету. І толькі ў апошняй сцэне — суда — яна скідае ўсе свае маскі. Усе бачаць жанчыну, якая глыбока пакутуе. Адналінейнасць, пляскатасць опернай "зоркі" знікае, вобраз набывае аб'ём, псіхалагічнасць, але спектакль абцяжарваецца філасофскім сэнсам. Да якога не дацягнуць. Невясёлы шлях адолелі акцёры, каб здаволіцца фінальнай сцэнай. А яна, сцэна фінальная, няўдзячная, па сутнасці, зрабілася тым самым каменем, які прывязалі да тапельца... А калі скарыстаць іншы вобраз, дык можна выснаваць пра спружыну дэтэктыўнага спектакля, якая мусіла была б сціскацца ад пачатку (закон жанру!), а яна бездапаможна правісла, расцягнуўшыся. На сцэну выходзілі, са сцэны знікалі, але чаго яны гэтым дамагаліся? Мала хто патрапіў давесці. Праўда, не можна не зазначыць, што гратэскавы вобраз Гаўк-Шэндорфа, створаны Т. Кокштысам, народным артыстам Беларусі, не грэў сэрца й не цешыў вока. Няможна было не заўважыць і не зважаць на яркі камічны дуэт Г. Гайдука (Янак) і Р. Грыбовіч (Хрысціна). Мо з абвешчанай на пачатку грандыёзнасці выйшла б яшчэ менш?

## МАСТАК, РАЎНАЛЕТАК ТЭАТРА

Мастак Аляксандр Салаўёў (заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, колішні галоўны мастак Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа) адзначаў сваё сямідзесяцігоддзе разам з тэатрам. 21 лістапада ў Віцебскім мастацкім музеі адкрылася ягоная, Салаўёва, выстава. Здаецца, каб падвесці вынікі, бо час падводзіць. Але для Аляксандра Салаўёва ўзрост як трамплін — для новага скачка-этапу ў творчасці. Мастак малады душою, а доказ таму — творы і ягоная любоў да жыцця. Прыемна разглядаць карціны і пазнаваць манеру, у якой было афармлена шмат коласаўскіх спектакляў. Дарэчы, гэтых спектакляў у тэатры імя Якуба Коласа — таксама семдзесят! Ну проста містыка нейкая!

## ПАКУЛЬ МЕЛІ ВОЛЬНЫ СПЕЎ

Перад жыхарамі вёскі Дзевяцібедаўкі неаднойчы паўстае выбар: сытае рабства ці, хоць і галаднаватая, воля. Здаецца, дзевяцібедаўцам трэба няшмат: пад'есці, паспяваць, паскакаць, падурэць. Яны несапсаваныя і наіўныя, як дзеці. Спяваць і слухаць песні для іх — амаль фізічная неабходнасць. Іх музыка, іх душа — Скалнас (М. Краснабаеў). Калі заморскія купцы прывезлі ў вёску Быка (для забеспячэння сытага існавання), разлічваецца трэба... Скалнасам, музыкам, — душой. Людзі не разумеюць, што абмен няроўны. І Быка хочацца пакінуць, і музыку шкада аддаць. Але ход разваг таксама няроўны: Бык — гэта дзіва, а песні? У нас іх шмат, пяём , калі і колькі хочам, чаго іх шкадаваць ды шанаваць?! Хто б мог падумаць, што адзіная песня, якую дзевяцібедаўцам цяпер наканавана слухаць — бычыны рык?

Людзі на сцэне нагадваюць... саміх сябе ў жыцці: пакуль мелі вольны спеў — не шанавалі; страцілі — змагаемся за правы спяваць. Або думаем-маракуем, як гэта пачаць змагацца. Толькі дзе хто рыкне або раўне, дык галаву хуценька ў гаршчок, каб не звязвацца, каб не вадзіцца. Так і жывём з гаршкамі на галовах. Ці то галовы носім на плячах, ці то гаршкі...

Усё мусіць скончыцца добра і супраць дыктатара-Быка паўстае песняр Скалнас, каб у сумленным паядынку перамагчы пачвару. Узлунае ягоная вольная песня, здымуць людзі з галоў гаршкі, заслухаюцца, заспяваюць. На сцэне — перамога справядлівасці, волі, кахання, прыгажосці і мастацтва. А нас хто выратуе?

**Іна САБАЛЕЎСКАЯ**

## ПРА ШТО ГУДЗЕ ПІЛА ГЕРОЯ?

...Музыка і жыццесцвярджальная фанаграма, неблагое спяванне Аляксандра Перцава... Мюзікл а ля Брадвей? Ды што вы, дзе ж на Брадвеі можна ўбачыць героя ў лапцях і з пілой у руках? Можна — у Віцебску. У "Час быка".

Груба і крыва збітыя дошкі кшталту "плот" — адвечны сімвал беларускага сялянскага побыту і шматфункцыянальная пляцоўка-пад'ёмнік на чатырох слупах — вось, у асноўным, і ўся сцэнаграфія спектакля. Дарэчы, гэтая пляцоўка-пад'ёмнік дзіўным чынам спалучае ў сабе і лазню, і вароты, і нават танцклуб Дзевяцібедаўкі. Бо менавіта вакол яе (пляцоўкі) таньчыць электарат дадзенага населенага пункта пад гукі пілы юнага ды-джэя. Гэты юнак праяўляе немалую вынаходлівасць, прыладжваючы пілу сабе на талію, ці то як папругу, ці то як бранягпояс. Але ёсць у яго адзін істотны недахоп — ён падкідыш, якога выгадавала ўся вёска. І цяпер юнак у даўгу ў гэтых людзей. Іхняя агульная згода была на тое, каб абмяняць музыку на шыкоўнага племяннога быка, прывезенага заморскімі "чаўнакамі". І словы з прадмовы Ф. Скарыны да кнігі "Юдыф": "Понеже от прирождения звери, ходящие в пустыне... игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку и мають..." лішні раз даводзяць той факт, што людзі-дзевяцібедаўцы сапраўды "ласку имають" да сваёй радзімы. Колькі выгады абяцае гэты бык! Але ж і музыкі шкада...

Нягледзячы на ўсе гэтыя ўцехі, спектакль мае надзвя незразумелую неканкрэтнасць стылю. Музыка і песні, ніяк не ўплятаючыся ў агульную канву спектакля, сціпла гучалі ў паветры залы. Ды й акцёры ў канцы спектакля, губляючы сэнс свайго існавання на сцэне, пачынаюць бегаць, караскацца па платах, ды гаршкі на галовы надзяваць. І гэта ўжо перад намі не жыхары Дзевяцібедаўкі, а самыя звычайныя акцёры, якія выдаюць сябе за вясковых жыхароў. Толькі дзве паставы вылучаюцца з гэтага натоўпу. Гэта Паважаны мужык Жамгуліс у выкананні Т. Кокштыса і Сляпы Стары. Глядач бачыць іх героямі — іх дзевяцібедаўцаў.

Аднак за імі цяжка назіраць з-за таго, што яны знаходзяцца крыху аддалена ад авансцэны, дзе "існуе" наш герой-музыкант. Што б ён ні

***Пімена Емяльянавіча Панчанку я ўбачыў упершыню ў ліпені 1947 года на Першай рэспубліканскай нарадзе маладых пісьменнікаў Беларусі. Ён ужо тады быў адным з самых любімых маіх паэтаў, многія вершы якога я ведаў на памяць. У час вучобы ў педагагічным вучылішчы (1947—1951) я неаднойчы сустракаў яго на вуліцы Слясарнай, дзе ён тады жыў, бо педвучылішча было зусім побач, на вуліцы Захарава, і я міма яго драўлянага доміка амаль штодня хадзіў то ў бібліятэку, то ў парк над Свіслаччу, то проста ў цэнтр горада. Мяне ён не ведаў, і я саромеўся вітацца пры сустрэчы, каб не навязвацца гэтым у знаёмыя.***
***У 1951 годзе менавіта Панчанка як намеснік галоўнага рэдактара "ЛіМа" апублікаваў у гэтым аўтарытэтным выданні мой верш "Па рэспубліцы восень ідзе". Гэта была мая першая публікацыя ў выданні Саюза пісьменнікаў — да таго былі "Бярозка", "Піянер Беларусі", "Чырвоная змена", "Работніца і сялянка", "Вожык", "Мінская праўда". Тады ж, у "ЛіМе", мы і пазнаёміліся асабіста...***

***У сваім хатнім архіве я адшукаў звыш дваццаці лістоў і паштовак Пімена Емяльянавіча, для мяне, вядома ж, вельмі дарагіх. У іх — не толькі сведчанне адносін старэйшага сябра да маладзейшага, але і выразныя штрыхі яго чалавечага характару, адзнакі яго мужнай і высакароднай грамадзянскай пазіцыі, яго цікавыя думкі і заўвагі аб сучаснай літаратуры, аб беларускім фальклоры, аб роднай мове, аб школе і аб многім іншым, чым жыў, што прымаў блізка да сэрца Паэт да апошняга свайго дня.***

***Некалькі з гэтых лістоў і паштовак хачу прапанаваць шаноўным чытачам "ЛіМа". У тым ліку — самую апошнюю паштоўку, напісаную ўжо зусім неразборліва, у стане цяжкай хваробы. Пачуваўся ён ужо вельмі кепска, а ўсё роўна жыў адным і думаў пра адно — пра лёс Маці-Беларусі.***

**Ніл ГІЛЕВІЧ**

# "...А З МОВАЙ УСЁ ГОРШ І ГОРШ..."

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Вось я і даведаўся, як Вы вучыліся жыць.

Дзякуй за кнігу*. Смешна, дасціпна, разумна.

Асабліва мне спадабаліся: "Як я ўцягнуўся", "Як я вучыўся жыць", "Кантора", "Шаманы", "Песенькі вясёлага Бураціна", пра справы парнаскія і каламбуры.

А яшчэ я крыху пасмяяўся, прачытаўшы анатацыю. У Вас смех "незласлівы, няжорсткі" і "з'едліва-іранічны тон".

На фоне агульна-вожыкаўскай прадукцыі Ваша кніга — !!!

Жадаю!

**Пімен Панчанка**

19.VIII.1974 г.

**Маецца на ўвазе зборнік "Як я вучыўся жыць", Мн., 1974.*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Яшчэ раз дзякую за кнігу "Паэтыка беларускай народнай лірыкі".

Я думаў яе перагартаць (як мы часта робім з навуковымі працамі), але пачаў чытаць, учытаўся і з вялікім задавальненнем прачытаў усю. Глыбокая, змястоўная і сапраўды таленавітая кніга. Вядома, многае я ведаў (раскідана), чытаў аўтараў, на якіх Вы спасылаецеся, і яшчэ тое-сёе. Але так навесці пражэктар думкі (цьфу, як "прыгожа" сказаў), з такой замілаванасцю, навуковай грунтоўнасцю сказаць пра дарагое і роднае — гэта ў нас упершыню. Віншую! Яшчэ раз думаеш: якая багатая наша народная паэзія! А памяць падсыпае ўсё новыя, свае з маленства, прыклады.

Вы часам пачынаеце (у такой сур'ёзнай працы) пісаць вершам:

***Ступаеш босы***
***На калючыя шышкі і чуеш,***
***Як шчодра атрасаецца на ногі***
***З верасу сцюдзёная раса.***

*(ст. 12)*

Сардэчна віншую Вас і Вашу сям'ю з надыходзячым Новым годам.

Здароўя і шчасця Вам!

**Пімен Панчанка**

*12.XII. 1975 г.*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Шчыра віншую Вас з вялікай гадавінай нашай Перамогі!

І Ваша Лагойшчына гарэла на Вашых вачах. Аб гэтым я чытаў цудоўныя вершы.

Дзякуй за "Запаветнае". Акрамя таго, што прыемна перачытваць Вашы вершы, яшчэ і проста хораша патрымаць такую кнігу ў руках.

Шчасця Вам!

**Пімен Панчанка**

*(На паштовым штэмпелі 10.V.1975)*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Шчыра Вам дзякую за "душу і сэрца".* Прачытаў Ваш артыкул і ледзь не заганарыўся. Вы так здорава і доказна напісалі, што я таму-сяму і сам пачаў верыць. Не пабаяліся нават паспрачацца з Я. К.**

Наогул, у жыцці я бянтэжуся ад раптоўнай хвалі прызнання, хоць і разумею, што юбілей. Але і сардэчнасць добра адчуваю.

Моцна Вас абдымаю —

**Пімен Панчанка**

*2.IX.1977*

Паклон Вашай слаўнай жонцы.

**П.**

**Маецца на ўвазе артыкул "З душой і сэрцам майстра", ч-с "Маладосць", 1977, N 8.*

***Якуб Колас.*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Пасля бурлівага з'езда, пасля мінскай спякоты я паехаў з З. К. да ўнучак — Ксені і Каці, у Каралішчавічы.

І тут грукнула першая навальніца са знакам якасці — білі моцныя, непаўторныя перуны са сваім адметным паэтычным голасам. І цэлы тыдзень ідуць (з пераносам на другі дзень, як "працяг будзе") дажджы.

Пішу Вам з прычыны, што мне надакучыла мастацкая літаратура і я ўзяў з сабой "Лірыку беларускага вяселля" і свае запісы (накапленне для вершаў). Спачатку адзначыў у змесце песні Докшыцкага і Барысаўскага раёнаў (паміж імі падзелены мой Бягомльскі), а пасля — Бабруйскага (з паловы якога зрабілі Кіраўскі р-н, дзе я настаўнічаў). 120 песень. І, божа мой! Многа ўспомніў, многа пазнаў. Нават, мелодыі недзе ў душы зазвінелі. І слёзы навярнуліся не раз, і смяяўся, як у маладосці.

Дык гэта ж такое багацце, хараство, самае высокае мастацтва, паэзія! Я проста зноў стаў шчаслівы.

Дзякую Вам, дарагі Ніл Сямёнавіч, за гэты скарб, на які мы часам забываемся!

Дождж дажджом, а беларускае вяселле — вяселлем. У мяне ўзняўся настрой. І пачаў трохі шкрэбаць па паперы. Напісаў даўжэзны верш, які назваў "Паэма сораму і гневу". Здаецца, яшчэ нешта напішу.

Я раней з-за жыццёвай мітусні не паспеў прачытаць гэтыя цудоўныя, поўныя мудрасці, лірыкі, журбы і гумару песні.

Той, хто не шануе родную — народную, варты таго, каб яго прывязалі да конскага хваста і прыцягнулі на адно з апошніх беларускіх вясковых вяселляў...

Жадаю Вам добрага здароўя, радасці, поспехаў, творчых удач!

Паклон Вашай мілай жонцы.

Ваш **Пімен Панчанка**

Прывітанне ад Зоі Кірылаўны і маіх унучак.

Заязджаў сёння сын — рашыў Вам напісаць.

*13.VII. 1986 г.*

*Каралішчавічы.*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Стан майго здароўя такі, што мяне хапае цяпер на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета і на такую-сякую працу ў Камітэце міру. Ну, яшчэ здараецца, на які-небудзь верш.

Таму я не здолеў прыняць удзел у Днях Эстоніі. Ды і прыехала іншае пакаленне эстонцаў. Я добра ведаў Семпера, Якабсона, Смуула, Марта Рауда — усе яны адышлі. Застаўся адзін Хінт, але ён не прыехаў. Наша новае пакаленне (якое перакладаецца на эстонскую), відаць, добра і годна правяло дэкаду...

Але я рашыў напісаць Вам ліст, бо прачытаў Вашы новыя вершы ў "ЛіМе". Мне блізка тое, што актыўна і таленавіта гаворыцца пра сучаснасць (асабліва вершы "У лета 1986-ае" — пра тое, што адбылося "праз сорак з гакам год пасля вайны", "Дзікун").

Але асноўная прычына майго ліста: Вы напісалі шэдэўр. Гэта трэба ў хрэстаматыі! "Жыта, сосны і валуны". Выдатна!

Віншую Вас і жадаю радасці!

Ваш **Пімен Панчанка**

*27.IX.1986 г.*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Прыміце сардэчныя віншаванні і найлепшыя пажаданні ў наступаючым Новым годзе! Жадаю Вам, Вашай сям'і самага светлага і добрага, здароўя і шчасця, удачы і радасці, новых песень і вершаў, паэм і споведзяў. А яшчэ: часцей слухаць шэлест ліствы, шум дажджу, звон рачулкі, часцей глядзець на зоркі і маланкі...

Няхай збудзецца ўсё, што задумана.

Ваш **Пімен Панчанка**

*31.XII.1987 (па пашт. штэмп.)*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Сардэчна віншую Вас, Вашу сям'ю, Вашых блізкіх з Новым 1989 годам, з 70-годдзем КПБ і БССР, з калядамі — праваслаўнымі і каталіцкімі!

Год мінулы — быў цяжкі і трывожны. Танулі параходы, разбіваліся самалёты, крушэнні на чыгунцы, даваў знаць і Чарнобыль, а тут яшчэ і армянскі землятрус...

А тут яшчэ...

Але наш крыж не Чарнобыль, а родная мова.

Нават наваготнюю паштоўку на беларускай мове выдавецтва "Беларусь" выпусціла такую няўдалую (мастак Г. А. Пантелеев — 126000 экз.), што ніхто не хоча купляць: не святочная і не прыгожая.

Ляглі мне на душу Вашы надзвычайна добрыя выступленні пра беларускую літаратурную мову, артыкул у "Правде" і, вядома, аўтабіяграфічны (і не толькі) нарыс "Перажыўшы вайну".

А з мовай усё горш і горш. Па радыё ўжо дыктары гавораць "зменнікі" — гэта зн. "здраднікі". А "Звязда" 10 снежня г.г. друкуе: "На заранку рэспублікі" (журналіст меў на ўвазе "на зары, на світанні, на досвітку").

Адным словам, зычу Вам здароўя, шчасця, поспехаў і радасці!

**Пімен Панчанка**

*23.XII.1988 (на пашт. шт.)*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

З добрым вясновым настроем віншую Вас і Вашых блізкіх з усімі майскімі святамі і асабліва з Днём Перамогі. Хоць і далёка той дзень Перамогі, а для мяне ён заўсёды самы вялікі, самы святочны.

Таму мне даспадобы прыйшлася Ваша кніга "Годнасць, сумленнасць, мужнасць". Дзякую за кнігі! Нешта ўжо чытануў, нешта паглядзеў, але сур'ёзна вазьмуся за кнігі ў дні Першамайскіх святаў.

Шчыра радуюся Вашай актыўнасці — і творчай, і грамадскай.

Тэмп маёй любімай песні "Вы шуміце, бярозы" трохі разыходзіцца з нашымі перабудовачнымі матывамі, але сама песня — шчаслівая знаходка для ўсёй беларускай паэзіі і музыкі. І па радыё часта просяць выканаць. А тут сам сабе ціха напяваеш: "А я лягу-прылягу..."

Хораша!

А я нечакана атрымаў нумар раённай газеты, у якой настаўнік беларускай мовы і літаратуры крытыкуе пісьменнікаў: "Кепска ставяцца да сваіх вершаў нашы беларускія паэты". І прыводзіць прыклад з майго верша "Белыя яблыні", дзе выкінута цэлая страфа "А потым дзяцей нараджаць ім і песціць" і г.д. А я і не ведаў. Зрабілі па сваёй волі вучоныя "ілбы".

Жадаю Вам шчасця, радасці, высокіх палётаў, мужнасці і чалавечнасці.

Абдымаю — **Пімен Панчанка**

*25 красавіка 1989 г.*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Сардэчна віншую Вас з Вялікім Кастрычнікам. Віншую Вашых блізкіх. Я занядужаў і не быў на Сесіі. Але я слухаў Вашу прамову па тэлеку. Шчырая і разумная прамова. Добрае і параўнанне з іншымі рэспублікамі (Малдавія і г.д.). А вось другі наш пісьменнік выступаў як заімшэлы кансерватар.

Некалі (па тэлефоне) у нас здарылася няёмкасць. Мне здалося, што я сваім лістом навязваюся, каб мяне наведалі. Гэта ўсё глупства.

Ваш **Пімен Панчанка**

*I.XI.1989 (на пашт. шт.)*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Вашу кнігу прачытаў (і перачытаў) з вялікім задавальненнем. Тут не проста "прачытаў цікавы раман", тут "а, ведаеш, здорава!", "Раю прачытаць паэму Гілевіча..."

Шкадую, што з-за маіх бясконцых хвароб (а прыпалі яны на час перабудовы) я не змог прачытаць "Родныя дзеці" раней. Гэта выдатны твор. Пасля "Новай зямлі" Коласа, рамантычных паэм-легенд Янкі Купалы, паэм Аркадзя Куляшова — гэта лепшы паэтычны раман у нашай літаратуры.

Хораша, што героі, падзеі, само жыццё ўрываюцца адразу ў наша сэрца без папярэджання і разваг.

Вось першы раздзел "Прычына". Гэтыя меркаванні, планы на адпачынак, абяцанне наведаць родныя мясціны, бацькоўскі дом — знаёмы з нас кожнаму. І тыя салодкія ўспаміны:

***Як ён пад венічкам якоча***
***У лазні брата Тамаша —***
***А дыхту болей, болей хоча***
***Не толькі цела, а й душа...***

А потым:

***І аглядаў Вячорка зноўку***
***Ці Крым, ці Сочы, ці Каўказ.***

Гэта хвароба нашага часу.

Вельмі добра, што Вашы героі ўрываюцца адразу са сваімі характарамі, сваёй мовай, звычкамі; з усімі добрымі і смешнымі праявамі, паводзінамі. І адразу пазнаём час, эпоху — (трохі няўклюдна, але час "перадперастроечны").

Без размазвання маралі, Вы трапнымі афарызмамі (уласнымі) гаворыце лепш, чым цэлыя раздзелы якой-небудзь аповесці:

***"Як цесна ў сувязі прычыннай***
***Стаяць Навука і Харчы".***

Альбо:

***"Народ не мокне ў рэстаране!***
***Народ сілкуецца ў чайной".***

***"Каб не ўніжаць аўтарытэту,***
***Ён Рэпу справіў на Рэппо".***

Вельмі патрэбна Ваша пародыя на "мову" і "размову" гэтай Рэпы — Мінска-Камароўскі дыялект, які прыжывілі бюракраты, ненавіснікі беларускай мовы, кар'ерысты.

Удаліся Вам і гутаркі радні (ну, "гутаркі" — не тое слова), адразу адчуваеш і характар, і турботы чалавека, і ці добры ён. Браты, сёстры, ну і, вядома, Маці, — гэта ўсё жывое, не выдуманае, а на мяне патыхнула даўнім Бягомлем (Бягомль — Барысаўскага павета).

***— Так, так, няможна! Род звядзецца,***
***Калі магіл не шанаваць.***

І далей тое месца:

***Ці жаль? Ці страх? Ці проста звычай?***

і да трэцяй страфы: "...Радзімы-Бацькаўшчыны шлях?"

Для мяне асабіста найлепшымі часткамі з'яўляюцца "Бацькоўскі кут" (родныя дзеці дома), "Вечар у полі" — тут шчырае і глыбокае разуменне беларускага народа, працы, хлеба, зямлі. Разуменне сэнсу жыцця. І... надзвычай лірычныя, глыбокія Вашы адступленні (асабліва Першае, патэтычнае; трэцяе — гістарычнае; адступленне чацвёртае — у гонар маці; і ... кулінарнае. Апошняе — цэлая энцыклапедыя беларускага стала).

*(Працяг на стар. 14–15)*

пакуль сена не ўгамонім.

Мой мужык-грыбазвон пачне грэбці сена, калодка ў граблях раз — і зламаецца. Бярэцца новую рабіць — нічога не выходзіць у яго, правалтузіцца паўдня. А як касу клепле — пажаблена каса, не ўмее кляпаць.

А мне прыказвае: "Пакуль Пецька, сын, прыедзе, ты навары, насмаж чаго-небудзь. Катлет спячы..." Падбародавіч, бач, наеў. То гурок хрушчыць, то маслянку п'е. Кажу: "Сусед Ігнат тонак-гонак, а як варушыцца. Усё сена ўпарадчыў ужо..." Незалюбіў, што так яго абклала. "Чаго ляжкі развярнула, сукенкі няма даўжэйшай?" І яшчэ нешта брэша.

А я была некалі даўгацыбая, шчогальная. Гэта зараз гады, ды й цяжкая работа, вечныя клопаты ўсё ніжэй гнуць мяне да зямлі, як вецер чарот у буру гне.

Калі радзімы знак на плячах, спіне — усюды — і ты яго не бачыш — шчаслівы будзеш. У мяне іх поўна, радзімак. Я іх і не бачыла. А вось шчаслівейшай ад гэтага не стала.

●

Маці ўсе святы святкавала, і мы разам з ёй. Перад Вялікаднем сем нядзель пасцілі, грэх быў есці сала. Калі доіцца карова, збіраюць масла ў ражку драўляную,тварог — у другую ражку, сыр вешаюць, сушаць, грэх есці. Мяса, кілбасы, сала — усё ляжыць да Вялікадня. Кумпякі ў дзежках. Перад Вялікаднем тры дні не елі. Хлопец не есць, каб яму выпала дзеўка прыгожая, і, наадварот, дзеўцы — прыгожы хлопец. Не елі ў чацвер, пятніцу, суботу. Перад Вялікаднем усяношная. Назаўтра прыходзяць раніцай з царквы і разгаўляюцца. Пасвенцаюць масла, сыр, мяса — і пачынаюць есці з яйка. Першаперш, як са ўсяношнай прыйдуць, у кубак зачэрпнуць вады, туды яйка, каб ляжала там, каб быць круглай, поўненькай, як яйка.

А цяпер у модзе худыя, як штыкецiны.

І не кожны вытрымлівае пасціць. Асабліва, калі цяжкая работа ў каго-небудзь. Брацennік кажа: "Наробішся з рання да абеду, як вол, прыедзеш на абед, кацёл з крупеняй стаіць на лаве ў кухні і навурышся лыжкай ці палонікам".

Адзін пасціў, цяжка працаваў, прыстала язва і памёр. Як хто: некаторыя пасцяць, а другія — не.

●

Дачка з горада прыехала, нейкі салат зрабіла з кукурузы, палачак рыбных, рысу, морквы, яек, маянэзу. Есці можна. А яна аж захлынаецца: "Мама, па тэлевізары нават спевакі расказваюць, як гатаваць тую ці іншую страву". Паслухаюць тыя, хто мае пенсію малую, пабачаць гэтыя стравы на экране — слінкі пацякуць.

А я люблю камы з раўгеняй. Забаўтаю мукі аржаной на летняй вадзіцы, лыжкай паволі .памяшаю, каб трохі засаладзілася. Падварваючы, пакіпячу добра, астуджу, вылію ў дзежку, халоднай вады вядро, скарынку хлеба — і ў печ пастаўлю. Раўгеня да раніцы і закісне. Стане рыжаватай. Камоў навару: надзяру бульбы, адцэджваю, ячменнай мукі замяшу. Вада закіпіць, камы качаю — і ў вар кідаю. Смашныя камы з раўгеняй.

Не забудзьцеся — раўгеняй завецца. Я ж навучылася на салат з гарошкам казаць: аліўе. Дачка прыкязвае называць так, калі важныя госці збіраюцца.

Марфа, суседка, ці смяялася, ці праўду казала: у горадзе страва ёсць — жулік, жулен. Добра і сама не ведае. Нешта, мабыць, мудрагелістае.

●

Ой, у яго машонка вялікая грошай! Скуры вырабляе. Быў у нашай вёсцы і мельнік — муку малоў. І мазнік, што дзёгаць гоніць. Была такая мазная яма. Яна вымазана глінай, у сярэдзіне дзірка. Смалякоў напіхаюць, праведзена труба, топяць спаднізу, смалаватае дрэва тлее, цячэ па трубачцы ў бочку драўляную дзёгаць. Мазнік прадаваў дзёгаць, трэба было ім калёсы, тарантасы мазаць. Тарантасы высокія, сена вазіць. Калёсы — нізенькія. Лінейкі закладалі багатыя людзі. Лінейка лёгкая, зыбаецца на рысорах — зыб-зыб, як на ёй сядзіш.

Стаіць жарабок на стайні. Шоркі — дробныя званочкі — надзенуць каню на галаву, да сядзёлкі прывязвалі, а жарабок ляціць — шор-шор і капытамі стучыць, і дыбкі стане — эга-га, і ногі ўверх. Ляціць да дзевак багатых. І ў бубны б'юць.

●

Валасы ў сына цямнейшыя, як у бацькі. І сам ён вышэйшы за бацьку і ў плячах сыцейшы.

Адбыў армію. Павазіла і яды і грошай туды, як у бездань якую ўкінула.

Мужык мой з маленства кульгавы, бальныя ногі, але рупны.

Сын — Колька — не такі. Яшчэ быў у арміі, наказаў, колькі і якога абування і адзежы накупіць. Ды каб моднага. Кінуліся мы да суседкі Ірэны. Удалая, спраўная, ідзе і то з падскокам. З ёй ездзілі ў горад і ўсё купілі.

Колька пасля арміі гуляў некалькі месяцаў. Потым уладкавалі яго на працу рахункаводам. Кінуў. Пыклівая, нудная работа. А, можа, і не спраўляўся. Мужыкі, бабы хадзілі ў падчысткі: галлё ў груды скідвалі і палілі. Ён ні ў якую — што я са старымі і бабамі там рабіць буду? І на трактар не хоча.

А тут за адной дзеўкай — Ксюшкай — цэлым статкам хлопцы ходзяць, нібы ваўчыная краса, калі круціцца ваўчыцы. І наш — туды. Як бы на гэтай дзеўцы ім свет сышоўся. Якісьці як бы дурны зрабіўся: валасы звязвае ў пук. Папшыкае нечым пахучым — і на ўсю ноч.

Бацька злуецца, пухчыць, як цеста: годзе гайдамачыць яму. Вось і ўчора я ні на валасок не заснула, дзе Колька?

Аднойчы раніцай сказаў: паеду адсюль, недзе нярускія — туркі — набіраюць будаўнікоў, добра плацяць.

Вой-вой, а што ж гэта, людцы, робіцца? Яды, адзення яму дапавалу. Адзін ён у нас. І хіба на сваёй зямельцы працы няма? Я ліку — заўсёды знойдзецца. Пакуль смецце з галавы не павывятрыцца — нічога не зробіш.

●

Маці дакарала мяне: Ліза — суседская дачка — непісьменная і ты такой будзеш. Згадзілася я ў школу хадзіць. Далёка школа, кіламетраў пяць. Прыйду ўвечары, праду, а заадно ў кнігу гляджу. У школе неяк прабэкаю. Стыдалася яшчэ. Папы, настаўнікі білі вучняў. Лінейкай як дадуць цераз лоб.

Адзін хлопчык чытаў верш у гул, а я падказала, як чытаць. Настаўнік падскочыў да мяне, як схапіў за вуха — і адарваў ладушачку вуха.

На гэтым мая вучоба скончылася. У маткі дзеці былі частыя. Я іх нянчыла. Абарвалася, іх цягаючы.

ПАМЯЦЬ

# А СЛАВУТЫЯ "РУЧНІКІ" БУДУЦЬ ЖЫЦЬ...

Сёння пра гэтага чалавека, грамадзяніна і творцу мы з жалем гаворым "быў". Не стала Мікалая Макаравіча Пятрэнкі, кампазітара, педагога, руплўца на ніве беларускай песні. Ён пражыў нялёгкае, поўнае розных выпрабаванняў жыццё. Мікалай Макаравіч пабачыў нямала: перадавую на вайне, і жахі фашысцкіх канцлагераў, і страты сяброў, і ўдзячныя вочы былых вучняў, і воплескі канцэртных залаў... Больш, як трыста песень народжана талентам кампазітара, многія з якіх, у тым ліку славутыя "Ручнікі", сталі любімымі ў народзе.



З 1960 года жыццё Мікалая Макаравіча звязана з Полацкам, горадам, які блізкі сэрцу кожнага беларуса. А для М. Пятрэнкі Полацк стаў тым асяродкам, дзе ўзрос яго талент, дзе найбольш поўна раскрыліся яго здольнасці педагога, дзе ўзмужнела яго грамадзянская пазіцыя. Тут ён стаў адным з галоўных руплўцаў на ніве роднай культуры і асветы, прыняў удзел у стварэнні падручнікаў і дапаможнікаў на беларускай мове. Яму былі прысвоены званне заслужанага настаўніка БССР, ганаровага грамадзяніна Полацка.

Цеснае сяброўства і супрацоўніцтва звязвала М. Пятрэнку з беларускімі пісьменнікамі. Ён не толькі ўвасабляў іх вершаваныя радкі ў песнях, ён быў тонкім знаўцам і дарадцам, сапраўдным сябрам і паплечнікам.

Радзіма страціла яшчэ аднаго выдатнага сына. І смуткуючы, перажываючы гэтую непапраўную страту, мы верым, што справа, якой аддаў сваё светлае жыццё Мікалай Макаравіч, будзе жыць, што памяць пра яго застанецца ў наступных пакаленнях.

**Г. Бураўкін, Н. Гальпяровіч, І. Жарнасек, Г. Кірылаў, С. Панізнік, І. Стадольнік, С. Тарасаў, Л. Неўдах, А. Аркуш.**

# І БАЛЬШЫНЯ СПЕКТАКЛЯЎ... ЗМОЎКЛА

Слава Шэндрыкаў адчуў хваробу ўночы. Пакуль цярпеў, пакуль стукаўся да калегаў — суседзяў па інтэрнацкім блоку, пакуль везлі на "хуткай", даследавалі, званілі ў Мінск, атрымлівалі парады для аперацыі ў Маладзечне, — хто мог памеркаваць або хоць прывід думкі дапусціць пра тое, што Слава памрэ? У дваццаць шэсць гадоў?!

Слава Шэндрыкаў, акцёр маладзечанскага тэатра, вядомага як Мінскі абласны драматычны, памёр. Увечары, як любога дбайнага ды здольнага артыста, яго чакаў спектакль (Жан-Поль Сартр, "Пры зачыненых дзвярах"), і роля... сартраўскага Харона, праваднiка грахоўных душаў у пякельную гасцільню. На прэм'еры я дзівілася дакладнасці і ягонай надзвычайнай акцёрскай засяроджанасці. "Слава, у вас адзін пабытавы жэст (я развяла рукамі); ён да ролі не пасуе". Слава моўчкі ўсміхнуўся. На наступным паказе, напэўна, ні гуку, ні подыху лішняга не было.



Адзін з выпускаў перадачы "Тэатр у фатэлі" мусіў быць прысвечаны якраз Сартру з маладзечанскім спектаклем. Размеркавалі сцэны і ўрыўкі. Слава не трапляў іграць перад камерамі: ні трупа, ні рэжысёр не хацелі аддаваць тэлебачанню ўсе тэатральныя таямніцы. Слава прыехаў на перадачу проста пасядзець у кадры. "Вы толькі ў мяне нічога не пытайцеся, добра?" — папрасіў ён. "Чаму?" — "Я разгублюся. Я проста пасяджу". Тыдні праз тры патэлефанаваў Веня Растрыжэнкаў, рэжысёр, які шмат са Славам працаваў: "Глядзім перадачу, — запісалі. Глядзім, плачам. Славу так доўга й хораша паказвалі. І ён усё маўчаў..."

Лёгка цяпер выснаваць, што Слава моўчкі прадчуваў свой лёс. Але па сыграных ролях, па тым, як любілі яго дзеці, — неверагодную любоўю! Ведалі па ролях, і па прозвішчы, тузалі бацькоў, прасілі паказаць Шэндрыкава! — мо і вызначаўся гэты самы лёс. Мая ўлюбёная роля — Дамавічок з "Драўлянага рыцара" Сяргея Кавалёва. Гэта я толькі цяпер зразумела, што Слава таксама іграў рыцара — на ўласны манер. Вясёлы, гаваркі, радасны, ажно пакуль самую радасць няўгледна ахутвала празрыстым вэлюмам самоты. Бо тэатральная, сцэнічная рэальнасць мела свайго рыцара — вызначанага, заўленага, фактурнага, у драўляных даспехах. Дамавічок не саступаў па імкненнях, але ж па змаганні з самім сабою, і па ўчынках дацягваў да рыцарскай вагі! Дзякуючы артысту-выканаўцу.

"Божухна, кім замяніць такога артыста?" — голас рэжысёра Растрыжэнкава паступова падымаўся да танальнасці ляманту. — Такога артыста, ды ў дзіцячых спектаклях, няма як, няма кім, няма, няма..." Напраўду, бальшыня маладзечанскіх спектакляў цяпер змоўкла... Вымагае акцёрскае замены. У адзіным сэнсе мастацтва бязлітаснае: у вытворчым. А пакуль... Суцяшэнне ў такой страце заўжды цяжка адшукаць, — рыхтык як замена ролю. Нават рэцэнзія, што меркавалася ў "ЛіМе", не можа быць хутка перапісанаю з улікам іншага выканаўцы, хоць такога — са Славам Шэндрыкавым — спектакля ў Маладзечне больш няма...

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Аляксея МАЦЮША*

**Дарагі Ніл Сямёнавіч!**

Дзякую Вам за віншаванне! Яшчэ больш дзякую за кнігу "Незалежнасць". Большасць вершаў добрыя і выдатныя. Ёсць сярод іх і прахадныя...

Вершы "Адкажы", "На новым вітку", "Трывайма, браты!", "Я не знаю, што ў нас будзе", "Не падбівай...", "Грамадзяне, спяшайцеся", "У родным горадзе", "Найстрашны грэх", "Б'юць у сэрца", "Кажаш, годзе публіцыстыкі", "Зданнё на бацькаўшчыне" і іншыя — такія палымяныя, аж пячэ! Гэта і патрэбна нам. А то вечныя "Крыніцы", "Жыве Беларусь!", "Сказ пра Еўфрасінню", "Падземныя гарады" і іншае, дзе няма ні кроплі жыцця! Няхай глухаватыя, якія мала разумеюць у паэзіі, кпяць. Гэтая бездар заўсёды была і незваротна знікала.

А ў Вас напамінак пра палымяныя словы Каліноўскага і Багушэвіча, і асабліва незабыўнага Янкі Купалы!

З паэтычнай перамогай!

Прабачце за почырк: акрамя сэрца, у мяне скруціў руку інсульт.

Абдымаю — **Пімен Панчанка**

*23.IX.1992*

**Дарагі Ніл Сымонавіч!**

Сардэчна віншую Вас і Вашу сям'ю з Новым, 1993 годам! Здароўя і шчасця Вам! Збяромся праз 12 месяцаў і, калі нам не будзе вельмі сорамна, адзначым, чаго і што мы дасягнулі...

Не дай бог нам зрабіцца яшчэ больш дурнымі, бязглуздымі, з большай нянавісцю да людзей... Малюся, каб гэтага не было!

З надзеяй чорт ведае на што...

І ўсё ж такі Зорка Венера гарыць над намі.

Абдымаю — **Пімен Панчанка**

*24.XII.1992*

**Дарагі мой Ніл Сымонавіч!**

Сардэчна віншую Вас і Вашу сям'ю з Новым, 1994 годам, з Калядамі!

Дзіўлюся, як Вы здолелі ў вар'яцкай атмасферы дэпутацкіх паседжанняў пісаць артыкулы, вершы, эпіграмы ды яшчэ выступаць...

Зычу Вам здароўя, творчай радасці, новых вершаў і паэм, і таксама "А я лягу-прылягу..."

Жадаю Вам, нястомнаму змагару за стан роднай мовы, поспехаў і ўдачы на шырокіх (але цяжкіх) сцежках нашага жыцця!

Ваш **Пімен Панчанка**

Прабачце за почырк, інсульт...

*1.1.1994 (на пошт. шт.)*

**Дарагі Ніл Сымонавіч!**

Віншую цябе і тваю сям'ю з Новым годам!

Твая апошняя прамова на Сесіі — цуд! Здароўя і шчасця!

Абдымаю — **Пімен Панчанка**

*2.1.1995 (на пошт. штэмп.)*

**Калектыў тыднёвіка "Літаратура і мастацтва" выказвае глыбокае спачуванне супрацоўніцы рэдакцыі ЛУК'ЯНЕЦ Ядвізе Іосіфаўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю бацькі.**

# РЭАЛІСТ

## *ГЕНРЫХУ БРЖАЗОЎСКАМУ — 85 ГАДОЎ*

85 ГАДОЎ — гэта нямала, і такі лёс выпадае не кожнаму, а толькі таму, хто нясе свет радасці і прыгажосці, дабрыні і чысціні людзям. Творчая спадчына Генрыха Францавіча — значная. Колькі напісана твораў — цяжка падлічыць. Напісаны яны ў розны час і ў розных умовах, падчас складаных і нялёгкіх. Талент Бржазоўскага стаў яго праклaццем, "асуджаючы", можа быць, супраць сваёй волі, быць захавальнікам найвышэйшага майстэрства рэаліста. Той жа самы талент рэаліста не даваў Бржазоўскаму магчымасці аператыўна рэагаваць на перамены моды і змяненні густаў.



*Г.Бржазоўскі на ўрачыстасцях, прысвечаных 75-годдзю Віцебскай мастацкай школы.*

Пасля вучобы ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме малады мастак у 1933 годзе прыехаў у Мінск і пачаў працаваць у школах і тэхнікуме выкладчыкам малявання і чарчэння, а ў вольны час з захапленнем маляваў у парку Горкага эцюды. Потым яны экспанаваліся на выставе "Асенняя". Гледачы і крытыкі ўжо тады адзначылі па-майстэрску напісаныя Г.Бржазоўскім пейзажы.

У маі 1936 года ён быў прызваны ў армію. Пасля дэмабілізацыі паступіў у студыю павышэння кваліфікацыі мастакоў пад кіраўніцтвам М.Керзіна, Ф. Мадорава, Я.Зайцава. У карціне "Мае сучаснікі" мастак адлюструе дні вучобы ў студыі. Студыйцы разам са сваімі педагогамі паказаны сярод творчай інтэлігенцыі. У групавым партрэце мы пазнаем Я.Купалу, Я. Коласа, П.Панамарэнку, М. Керзіна, Ф.Мадорава, М. Станюту, Я.Зайцава, З.Азгура, А.Бембеля, А.Тычыну, С.Лі і многіх іншых. Напісаныя яны з дакументальнай дакладнасцю партрэтуемых, адлюстроўваючы канец 1930-х гадоў. Работа адметная тонкай жывапіснай інтанацыяй.

Вялікая Айчынная вайна была найцяжэйшым выпрабаваннем для мастака, бо ён у поўнай меры зведаў страты, цяжар і нястачы партызанскага жыцця, перажыў радасць перамогі. А таму тэма вайны была для Г.Бржазоўскага ў пасляваенны перыяд, як і для многіх, адной з галоўных. Ёй прысвяціў свае вядомыя жывапісныя палотны "Выхад з блакады" (некалькі варыянтаў), "Брэсцкая крэпасць. 22 чэрвеня 1941 года", "Падрыўнікі 3-яй Мінскай брыгады", "Партызаны ля кастра", "Пахаванне таварышаў", "Рэйкавая вайна", "Партызанскія паходы", "Парад партызан", "Салдацкая песня" і шмат іншых. Усе яны зберагаюцца ў музеях гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Засталіся на палотнах вобразы камандзіраў, шараговых партызан, разведчыкаў, усіх тых, з кім Г.Бржазоўскі кожны дзень сустракаўся, хадзіў на заданні. У вольныя хвіліны браўся за аловак, імкнуўся адлюстраваць на паперы ўбачанае за дзень. Многія партрэтныя замалёўкі алоўкам сталі персанажамі на палотнах, якія мастак пісаў ужо ў майстэрні пасля вайны. Карціна "Падрыўнікі 3-й Мінскай брыгады" намалявана была каляровымі алоўкамі для часопіса "Народный мститель", які выходзіў у партызанскай брыгадзе 3-й Мінскай імя Будзённага (рэдактарам і мастаком-афарміцелем быў сам Г. Бржазоўскі). Важнай зброяй у той час была антыфашысцкая публікацыя. Фрагменты гэтага праўдзівага дзённіка-рэпартажу і сёння можна ўбачыць на выставах, у музеях, фондах, у прыватных калекцыях. Адначасова мастак піша пейзажы, нацюрморты, партрэты. Асобна трэба адзначыць цікавасць і любоў мастака да вытворчай тэматыкі, якую ведаў ён з асабістага працоўнага вопыту: "Ліцейна-стрыжнёвы цэх", "Швернік на заводзе", "У ліцейным цэху", "Перадача вопыту" (усе 1950—60-я гады, знаходзяцца ў Нацыянальным музеі Беларусі) і шмат іншых.



*Я. Купала са сваёй маці. 1951 г.*

Але ёсць і іншы Генрых Бржазоўскі — мастак-лірык. Ягоным пейзажам уласцівы светлы настрой, мажорнасць, паэтычнасць. Жывапісец любіць адлюстроўваць ціхую плынь рэчак, невысокія пагоркі, палявыя сцежкі, красу беларускіх лясоў, азёр ("Жніво", "Сенакос", "Вёска майго дзяцінства", "Дажынкі", "Калгасны сад", "Лён", "Калгасны статак", "На родных палях", "Курасоўшчына" і інш.).

На выставе, якая адбылася ў 1962 г. у Мінску ў мастацкім салоне і была прымеркавана да 50-годдзя мастака Генрыха Бржазоўскага, гледачам было прадстаўлена больш за 280 работ — тэматычныя палотны, прысвечаныя Вялікай Айчыннай вайне і працаўнікам мірнага часу, партрэты, пейзажы, нацюрморты, партызанскія малюнкі мастака. У кнізе водгукаў прачытала я выказванні — палярныя. Той, хто прайшоў вайну, зведаў яе цяжкасці і гора, адстойваў мастака, іншыя ж успрымалі адмоўна. Тыя, што мелі ўладу, маўчалі. Ніводнай работы мастацкім саветам не было закуплена. Маральна зломлены, мастак на доўгі час замаўчаў як творца. А трэба было жыць, карміць сям'ю. Пачаў маляваць на бляхе для чыгункі паказальнікі дарог. Так працягвалася каля 10 гадоў. З ім не заключалі дагавораў, ды і сам мастак не хадзіў на камбінат, не прасіў. Але любоў да мастацтва перамагла. Мастак паціху набіраўся творчай энергіі. Яго баявая сяброўка Таццяна, урач партызанскага атрада, якая прайшла з ім нягоды вайны, не дала зламацца і тут.

Прага праўды, гістарычнай і пражытай, адкрытая публіцыстычнасць — адзнакі таго напрамку ў мастацтве, які прынята называць "суровым стылем", прадстаўніком якога і быў Г.Бржазоўскі. Мастак звяртаецца да гістарычнай тэматыкі, вывучае матэрыялы па ўспамінах сведак. Так былі напісаны карціны "Першая сустрэча Ф. Э. Дзяржынскага і У.І.Леніна на IV з'ездзе РСДРП", "Старая алея ў Дзяржынаве", "Малады Фелікс ад'язджае на вучобу ў Вільню". Блізкае знаёмства з Я.Купалам дало штуршок для напісання палотнаў "Сустракаюць гасцей", "Янка Купала на беразе Свіслачы", "Я.Купала, Я. Колас, П.К.Панамарэнка сярод творчых работнікаў Мінска. 1939 г.".

На працягу ўсяго свайго творчага жыцця мастак піша партрэты блізкіх і любых яму людзей: жонкі, дзяцей. Больш за ўсё ў розныя гады жыцця і творчага пад'ёму — партрэты дачкі Людмілы, прыма-балерыны, народнай артысткі Беларусі, намагаючыся перадаць унутраны стан гераінь Люды: "Партрэт балерыны", "Ізольда", "Партрэт дачкі ў Гурзуфе", "Балерына" і інш.

У апошні час мастак піша шмат нацюрмортаў — балазе, жонка вырошчвае кветкі на лецішчы. Дасягнуўшы высокага майстэрства, мастак імкнецца пашырыць магчымасці гэтага жанру. Кветкі яго напоўнены дыханнем, кожная выпісана асобна, мае сваё значэнне, колеры заўсёды вясёлыя, выпісаны дэталёва і ўважліва ("Рамонкі", "Валошкі", "Ружы", "Бэз", "Гладыёлусы", "Язмін", "Асенні букет", "Нацюрморт з яблыкамі" і шмат іншых).

Толькі ў 1982 г. пасля доўгага перапынку Г.Бржазоўскі зрабіў персанальную выставу. З некаторымі творамі ён рэгулярна выступаў на рэспубліканскіх і саюзных выстаўках, яго работа "На родных палетках" стала класікай і ўвайшла ў многія школьныя падручнікі. Такіх работ у мастака шмат. Пра гэта сведчыць і тое, што вялікая колькасць яго палотнаў знаходзіцца ў музеях і прыватных калекцыях ЗША, Ізраіля, Германіі, Італіі, Галандыі, Польшчы, Японіі і іншых краін. І ў пераважнай большасці — гэта работы таго самага рэалізму, які так "хаілі" ў свой час яго "нядобразычліўцы". Работа "Паплечнікі Леніна" была прыдбана нямецкім мастаком у 1995 г., перапрададзена ім у 1996 г. на аўкцыёне ў Германіі і ўвайшла ў каталог "Рэліквіі". Такая ж гісторыя паўтаралася і з некаторымі іншымі карцінамі мастака.

Мастак рыхтуецца да выставы, прымеркаванай да юбілею. Рыхтуецца з хваляваннем — сам робіць рамкі, малюе нацюрморты, пейзажы. Працуе, нягледзячы на ўзрост, плённа і з натхненнем.

**Галіна ФАТЫХАВА**



*Партрэт прыма-балерыны Л. Бржазоўскай. 1982 г.*



*На родных гонях. 1952 г.*




ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4683
Нумар падпісаны 9.1.1997 г.
Заказ 84/Г

П 123456789101112
М 123456789101112